PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 41 (2161) Год XLII Беласток 12 кастрычніка 1997 г. Цана 1 зл.



*Насупраць восені.* Фота Уладзіслава ЗАВАДСКАГА

## У нумары



# Апошняе царскае паляванне ў Белавежы

**Пётр Байко**

Першым царом, які паляваў у Белавежскай пушчы, быў Аляксандр II. Было гэта ў 1860 г. Пасля яго ў Белавежу ў 1894 г. прыязджаў цар Аляксандр III. Дарэчы, ён жа і збудаваў тут свой палац для паляўнічых мэт. Разам са сваім бацькам паляваў у 1894 г. царэвіч Мікалай — наследнік трона. Ужо як цар Мікалай II ён заглянуў у белавежскія нетры ў 1897 г., значыць роўна 100 гадоў назад. На паляванні прыязджаў сюды яшчэ ў 1900, 1903, 1906 і 1912 гадах. Затрымаймася пры гэтым апошнім паляванні. Тым больш, што ёсць адпаведная нагода — з таго часу мінула роўных 85 гадоў.

Аб планаваным прыездзе цара і яго гасцей белавежцы даведаліся ўжо вясною. Недзе ў красавіку ў Белавежу прыехалі малады лейтэнант і старэйшы унтэр-афіцэр. Іх заданнем было выбраць з вучняў мясцовай школы 40 хлопцаў і сарганізаваць з іх г.зв. „пацешнае войска". Хутка выявілася, што з гэтым будзе клопат, бо белавежскія хлапчукі наогул не вылучаліся фізічнай дужасцю. Канчаткова ў „арміі" апынулася толькі 35 вучняў.

„Рэкрутам" пашылі светла-зялёныя кашулі і штаны, таксама шапкі з брылямі. Кожны атрымаў драўляную імітацыю вінтоўкі. Муштры хлопцы вучыліся два дні ў тыдні. Ім растлумачылі, што восенню выступяць яны перад царэвічам Аляксеем, і магчыма, што ён сам будзе з імі практыкавацца. На жаль, да гэтага не дайшло з-за слабога здароўя васьмігадовага наследніка трона.

Цар, яго жонка, дзеці і госці прыбылі ў Белавежу ў пачатку верасня 1912 г. Да іх прыезду па дамах жыхароў Заставы паразмяшчалася царская ахова, якую састаўлялі чаркесы. Над ракой Нараўкай яны ўсталявалі палявую кухню, да якой часта прыбягалі дзеці паспрабаваць „царскага супу". Чаркесаў наогул усюды бачылася толькі да прыезду цара. Калі ўжо ён быў на месцы, ахоўнікі быццам пад зямлю праваліліся. Казалі, што імператар не пераносіў заўважальнай прысутнасці паліцыі.

Паляванне зацягвалася на два тыдні з прычыны царэвіча. Царская пара намервалася пагасцяваць у Белавежы каля тыдня і потым пераехаць у Спалу, дзе таксама мелі паляваць. Але царэвіч Аляксей, хворы гемафіліяй, ужо на трэці дзень ударыўся падчас купання аб бераг ванны і ў яго паявілася лёгкае ўнутранае кровазліццё. Апякун наследніка трона, матрос Дзеравенка, не прыкмеціў гэтага. Царэвіч у сваю чаргу не паведаміў нікога аб здарэнні, бо баяўся, што не атрымае ад свайго бацькі абяцанага веласіпедзіка. Цярпеў датуль, аж абамлеў ад болю. Доктар Дзеравенка (супадзенне з прозвішчам матроса — выпадковае) неадкладна прымяніў лячэнне. Аляксей праляжаў у ложку 8 дзён. На шчасце, пухліна ўвесь гэты час паменшвалася. Усё-такі хлапец быў слабы і вельмі бледны. Таму і было распушчана падрыхтаванае для яго „пацешнае войска".

На паляванні цар і госці выязджалі амаль кожны дзень ранняй гадзінай. Ужо не экіпажамі, як даўней, а на аўтамабілях. Ехала іх недзе 20, а мо і больш. Ніколі не было вядома, у якім аўтамабілі едзе цар. З пушчы паляўнічыя вярталіся познім вечарам. Упаляваную звярыну лясная служба патрашыла на месцы, потым прывозіла ў Белавежу. Укладалі яе, групуючы паводле відаў, пасярод растучых тут старых дубоў. Рады зуброў, аленяў, дзікоў, сарнаў упрыгожваліся вянкамі з галінак яліны або дуба. Пасля вячэры адбываўся перагляд паляўнічага здабытку, які з нямецка называлі штрэкай.

У момант, калі цар паяўляўся ў зашклёным ганку палаца, падпальвалі агонь у размешчаных на двух драўляных стаўбах металічных посудах. Стоячая за імі паляўнічая ахова аб'яўляла ігрой на трубках пачатак агляду. Цар прыбліжаўся да паасобных радоў звярыны, а кіраўнік паляўнічай службы Нэверлі дакладваў аб колькасці забітых відаў. Рапарту спадарожнічаў адпаведны для кожнай звярыны паляўнічы гейнал. Калі ўжо ўсе нагляздзеліся на паляўнічы здабытак, разыходзіліся.

[працяг ☞ 3]

# Мы прачыталі

*Niemoralne zachowania polityków często związane są z kampanią wyborczą. Większe pole do popisu mają politycy związani z obozem władzy. Posłowie rozsyłali listy i ulotki wyborcze do wyborców na kopertach poselskich, na koszt podatnika. Zygmunt Wrzodak z ROP-u został oskarżony o pobicie kobiety w trakcie dyskusji przedwyborczej. Kandydat PSL Jacek Opalski, który twierdził, że nigdy nie był karany, podczas gdy otrzymał rok czasu więzienia za pobicie łopatą dwóch osób. Kandydat Krajowej Partii Emerytów i Rencistów Janusz Dudkowski znany był w swoim środowisku jako „damski bokser". Tak dotkliwie pobił swą konkubinę, że wylądowała w szpitalu, a lekarze musieli usunąć jej nerkę.*

*Kurier Poranny, nr 217*

Думаем, што і ў новым Сейме не будзе нудна. З прыемнасцю паінфармуем чытачоў аб першых выбітых зубах падчас парламенцкай дыскусіі.

* * *

*Niezbyt zachęcająco brzmiało hasło w kampanii wyborczej: „I ty zostaniesz emerytem". To tak jakby reklamować przedpłaty na cmentarzu.*

*Gazeta Wyborcza, nr 221*

* * *

*Чалавекам тыдня ў Літве газета „Рэспубліка" назвала Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнку. Газета прысвяціла А. Лукашэнку цэлую старонку і надрукавала інтэрв'ю з Прэзідэнтам Беларусі.*

*Голас Радзімы, н-р 38*

Гэта была адна з важнейшых інфармацый, якую паведаміла тэлегледачам лукашэнкаўскае тэлебачанне.

* * *

*Przed wyborczym 5-procentowym progiem znalazły się te ugrupowania, które straceńczo szukały szans na własną rękę lub uprawiały chocholi taniec na marginesie wielkiej polityki. Nawzajem wycięły się dwie partie emeryckie.*

*Polityka, nr 39*

* * *

*Zapowiada się prawdziwy szturm prawicy na Urząd Wojewódzki w Białymstoku. Do wymiany są stanowiska wojewody, wicewojewody, dyrektorów wydziałów, kuratorów, kierowników administracji terenowej. Tak jak to było w Urzędzie Miejskim po zwycięstwie „Jedności". Słowem AWS zbliża się.*

*Kurier Poranny, nr 223*

* * *

*W Białymstoku rosną wpływy Kościoła. Miastu przypisuje się nawet opinię Okopów Świętej Trójcy. W homilii biskup polowy WP Leszek Sławoj Głódź powiedział: Białystok dał przykład całej Polsce jak należy bronić wartości. Módlmy się więc, by Białystok pozostał miastem polskim, by był miastem biało-czerwonym, miastem chrześcijańskim, wychodzącym naprzeciw rodakom na Litwie i Białorusi.*

*Władze miasta budują zresztą mit Białegostoku jako przedmurza chrześcijaństwa. Prezydent Krzysztof Jurgiel kilkakrotnie nazywał miasto „stanicą na wschodnich rubieżach". Dla nikogo nie jest tajemnicą, że najważniejsze dycyzje są konsultowane z abp. Stanisławem Szymeckim. On też podejmuje ostateczne decyzje.*

*Kurier Poranny, nr 218*

* * *

*Krzaklewski powodowany ambicją bez granic zaczyna żyć myślą o wyborach prezydenckich.*

*Gazeta Wyborcza, nr 223*

Манек прэзідэнтам! На Беласточчыне стане яшчэ весялей.

* * *

*Na Białorusi jeszcze nie skończyła się jedna afera prasowa, a już zaczęła się druga. Białoruska prokuratura oskarżyła kolejnego rosyjskiego dziennikarza. Grozi mu pięć lat więzienia. Jak tak dalej pójdzie, to Jelcyn będzie musiał powoływać specjalnego pełnomocnika ds. wyciągania z białoruskich więzień rosyjskich żurnalistów.*

*Najwyższy Czas, nr 38*

* * *

*Каморскія ідыёты беларускім ідыётам — прывітанне.*

*Ну нарэшце, адбылося, не адзіныя мы ідыёты ў свеце. На каморскім востраве Анжуан паўстаньне супраць незалежнасьці і свабоды. Былая калёнія Францыі хоча назад у імперыю. Прычыны пагаршэньня сацыяльных варункаў, мени таварўў і даражэй чым у Парыжы. Каморскі народ у колькасьці пару дзесяткаў чалавек захапіў будынак дзяржаўнай паліцыі. Усе тры паліцыянты, што былі ў будынку не супраціўляліся.*

*Праўда, у адрозьненьні ад Расеі французы жывуць сапраўды больш заможна чым каморнікі. Але затое нашы беларускія ідыёты, што пнуцца ў Расію, самыя лепшыя, і роўных ім на свеце няма.*

*Усё ж такі, як прыемна, што не адны мы больш дурні на зямной кулі. Да здравствует свободолюбивый..., народ, великий коморский народ! Ура! Вперёд к победе мирового идиотизма!*

*Весткі й Паведамленьні, н-р 365 (Нью Ёрк)*

Ура!

# З мінулага тыдня

**Віцэ-прэм'ер Расеі Барыс Нямцоў** крытычна ацаніў магчымасць ажыццяўлення саюза Рэспублікі Беларусь і Расейскай Федэрацыі, — паведаміла „Белорусская деловая газета", якая змясціла такое вось выказванне намесніка кіраўніка расейскага ўрада: „Нельга аб'яднаць эканамічныя сістэмы Паўночнай і Паўднёвай Карэі, Фларыды ці недалёкай Кубы; так сама нельга інтэграваць гаспадаркі Беларусі і Расеі, якія фундаментальна розняцца між сабою". Дадаў ён яшчэ, што Беларусь „у вульгарны спосаб" парушае саюзны дагавор у галіне шанавання правоў чалавека. Прэс-сакратар беларускага прэзідэнта не прыдаў значэння выказванням Нямцова, паколькі, на яго думку, „выйшлі яны ад працўніка саюза Менска і Масквы".

**Сыльвестэр Шостак** замяніў **Мар'юша Машкевіча** на пасадзе генеральнага консула РП у Гродне. Новы консул адбыў сустрэчу з беластоцкім ваяводам.

**І Беластоцкія дні царкоўнай музыкі**, прымеркаваныя да пятай гадавіны пераносу мошчаў **св. Гаўрыіла** з Гродна ў Беласток, праходзілі на працягу апошняга вераснёўскага тыдня ў беластоцкіх храмах. У яго ходзе выступіла пад два дзесяткі праваслаўных хораў з Беластока і Варшавы. Фестываль будзе арганізавацца штогод.

**У адзінаццаці ВНУ Беластока** на дзённых, вячэрніх і завочных аддзяленнях вучыцца будзе каля 30 тысяч студэнтаў, з ліку якіх 7 тысяч — гэта першакурснікі. 10 кастрычніка адбудзецца афіцыйная інаўгурацыя дзейнасці самастойнага ўжо Універсітэта ў Беластоку, на якім вучыцца 13 тысяч студэнтаў.

Аддзяленне **Аб'яднання народжаных у нямецкай няволі** паўстала ў Беластоку. Гуртуе яно людзей, якія нарадзіліся на тэрыторыі Нямеччыны ў перыядзе ад 1 верасня 1939 г. да 8 мая 1945 г. Аб'яднанне дзейнічае за кошт складчын і прыватных датацый. Наладзіла яно кантакты з падобнымі арганізацыямі ў Еўропе і выступіла да нямецкага ўрада з прапановай прысвоіць сваім членам двайное грамадзянства. Беластоцкае аддзяленне налічвае 80 чалавек.

**Каля Юшкавага Груда** па ініцыятыве Таварыства любіцеляў Міхалоўскай зямлі адкрыты мемарыяльны комплекс для ўшанавання Студзеньскага паўстання 1863 года. Складаюць яго каталіцкі і праваслаўны крыжы, паміж якімі знаходзіцца валун з таблічай і надпісам на ёй: „У гонар загінуўшых, зняволеных, сасланых у Сібір паўстанцаў — удзельнікаў бітвы ў Ялоўскай пушчы, якая адбылася 20.09.1863 г., у 134 гадавіну Студзеньскага паўстання — жыхары гміны Міхалова". Аўтарам помніка з'яўляецца д-р **Лешэк Нос**.

**У Жэпіне** Гажоўскага ваяводства апаганены магілы савецкіх воінаў. На гэты раз ахвярай невядомых злачынцаў сталі 19 пахаванняў, у тым ліку брацкая магіла савецкіх салдат. Вандалы разбурылі надмагільныя помнікі, пашкодзілі цокаль помніка на брацкай магіле. Паліцыя ацэньвае гэтае дзеянне як звычайную хуліганскую выхадку.

**Супрацоўнікі Скотланд-ярда** арыштавалі 77-гадовага жыхара Лондана **Андрэя Саванюка**, які абвінавачваецца ў генацідзе супраць яўрэйскага насельніцтва на тэрыторыі Беларусі ў гады II сусветнай вайны. Саванюк дабравольна здаўся паліцыі. Ён другі па ліку злачынца (пасля **Сімона Серафімовіча**), які будзе прыцягнуты да крымінальнай адказнасці за ўдзел у ваенных злачынствах нацыстаў у 1941-1945 гадах.

# Весткі з Беларусі

**Антымістычны бюджэт**

Сёлета беларускі ўрад мае намер выканаць даходную частку дзяржаўнага бюджэту на 100%. У гэтым годзе наступіў значны рост паступленняў у казну ў апошнія месяцы. За мінулыя восем месяцаў гадавы бюджэт быў выкананы на 63%. Праект бюджэту на будучы год, які распрацоўваецца ўрадам рэспублікі, прадугледжвае павелічэнне бюджэтных даходаў на 133,02% да сёлетняга ўзроўню. Праект дзяржбюджэту на 1998 год захавае сацыяльную накіраванасць.

**Кантроль за гандлем**

Віцэ-прэм'ер урада Уладзімір Гаркун запатрабаваў узмацніць адміністрацыйны кантроль за гандлёвымі арганізацыямі ўсіх форм уласнасці. На міжведамаснай нарадзе разлічаны былі вынікі праверак, праведзеных кантрольнымі органамі ў розных рэгіёнах рэспублікі. На прылаўках часта адсутнічаюць элементарныя і далёка не самыя дэфіцытныя тавары — воцат, маргарын, тушонка, мыла. Уладзімір Гаркун падкрэсліў, што ўсе недахопы ў сістэме арганізацыі гандлю могуць і павінны быць выпраўлены ў найкарацейшыя тэрміны.

**Крэдыт для БАЗ**

Перагаворы аб выдзяленні экспартным банкам часткі крэдыту ў памеры 119 млн. дол. ЗША на рэканструкцыю і мадэрнізацыю Беларускага аўтамабільнага завода прайшлі ў горадзе Брно. Вызначаны адказныя выканаўцы і тэрміны паэтапных работ. Фінансаванне праекта плануецца пачаць са студзеня наступнага года.

**Электронныя дакументы**

У Беларусі распрацоўваецца праект закона аб электронным дакуменце і яго выкарыстанні ў банкаўскай дзейнасці. У сувязі з гэтым рабочая група, створаная пры галоўнай фінансавай установе краіны, вызначыла пералік дакументаў і інфармацый, якія падлягаюць доўгачасоваму захоўванню, а таксама тэхналогію іх збору, апрацоўкі і перадачы. Пасля прыняцця закону электронныя плацёжныя паведамленні будуць надзелены юрыдычным статусам, што надасць асаблівую значнасць архіўнай сістэме міжбанкаўскіх разлікаў.

**Вяртанне крыжа**

У старажытным Полацку ў дзень Уздзвіжання Крыжа Гасподняга завяршылася сімвалічная ўрачыстасць — у Спаса-Еўфрасіннеўскім манастыры застаўся на вечнае захоўванне адноўлены крыж св. прападобнай Еўфрасінні Полацкай. Над вывявай крыжа, арыгінал якога загінуў у апошнюю вайну, на працягу пяці гадоў працаваў брэсцкі майстар Мікалай Кузьміч. 27 верасня гэтаму крыжу пакланіліся праваслаўныя хрысціяне Беларусі.

**Інтэрнэт у бібліятэцы**

Бібліятэка імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі ўдзельнічае ў міжнароднай праграме ІНТАС па забеспячэнні карыстальнікаў інфармацыяй прыродазнаўчага і медыцынскага профілю. Дзякуючы гэтай праграме вучоныя і спецыялісты маюць магчымасць бясплатна атрымаць артыкулы з навуковых замежных перыядычных выданняў, якія адсутнічаюць у фондах бібліятэк рэспублікі. Сувязь з замежнымі партнёрамі ажыццяўляецца праз сістэму Інтэрнэт і электронную пошту.

**Супольнае домаўладальніцтва**

Увасабленне ідэі сумеснага домаўладальніцтва пачаў горад Орша. Жыхары 80-кватэрнага жылога дома выраішылі ўзяць на сябе клопаты па эксплуатацыі і добраўпарадкаванні шматпавярховіка. Таварыства будзе збіраць кватэрную плату, атрымліваць па дагаворах ваду, цяпло і іншыя камунальныя паслугі непасрэдна ў іх пастаўшчыкоў, а таксама рашаць пытанні здачы жылля ў арэнду, а наваг арганізацыю камерцыйнай дзейнасці, калі ў гэтым узнікне неабходнасць.

**Сёлетні плён**

У гэтым годзе земляробы намалацілі 6 млн. 499 тыс. тон збожжа пры сярэдняй ураджайнасці 27,2 цэнтнера з гектара. Для параўнання ў 1996 годзе ў рэспубліцы было сабраных 5,8 млн. тон збожжа (па 25 цэнтнераў з га). Пшаніцы сёлета намалочана на 18% больш, а жыта на 2% менш, чым летась. Валавы збор аўса і ячменю павысіўся на 6 і 13% адпаведна. На наступны год плануецца далейшае пашырэнне пасяўных плошчаў пад пшаніцу і скарачэнне іх пад жыта.


## Неўзабаве ў „Ніве"

- Раніца Міхася Андрасюка ў бары „У Алеся".
- Генеральны консул РБ Міхаіл Слямнёў закончыў сваю дыпламатычную місію ў Беластоку.
- Рэпартаж Міхала Мінцэвіча пра жанчыну-пчаляра.

# Люблю свае Кошкі

**Вёска Кошкі Арлянскай гміны мае за сабою чатырохсотгадовую гісторыю. Сёння жыве тут 120 жыхароў, у пераважнай большасці пажылога ўзросту, якія лічаць сваю вёску найдаражэйшай мясцінай у свеце. Адным з іх з'яўляецца Аляксей СЕБЯТЫНСКІ — 69-гадовы пенсіянер, які заўсёды знаходзіў час на грамадскую дзейнасць, чалавек адкрыты, глыбока прывязаны да роднай зямлі, які цэніць вясковы спакой.**



— У 1936 г. пайшоў я ў школу ў Падбеллі, — успамінае спадар Аляксей. — Навуку неўзабаве спыніла вайна. А пасля была ўжо толькі праца з бацькамі на гаспадарцы. У 1950 г., а было мне тады 21 год, ажаніўся я з Ганнай з Дубяжына. Жылі мы ў Кошках пры бацьках, а гэты дом паставіў я насупраць старой хаты. Бацька даў мне 8 гектараў, потым купіў другія восем. Нарадзіліся ў нас дзве дачкі і абедзве закончылі вышэйшую адукацыю. Адна выкладае англійскую мову ў Беластоку, а другая мае прыватнае фотаатэлье ў Сямятычах.

Апрача працы на гаспадарцы займаўся я грамадскімі справамі. Шмат гадоў быў я членам наглядальнай рады ГС у Орлі і ВЗГС у Беластоку. Цяпер няўхільна набліжаецца канец ГСам... Зараз займаюся ў Воднай суполцы, дзе ўжо трэцюю кадэнцыю засядаю ў наглядальнай радзе.

Тры гады таму перапісаў я зямлю на ўнука, а сам пайшоў на пенсію.

Сёння ў Кошках гаспадаркай займаецца ўсяго 18 сялян. Большасць жыхароў складаюць пенсіянеры, а пяць будынкаў ужо пустуюць. Старыя людзі хацелі б дажыць свой час годна. Трэба было б у вёсцы паправіць кіламетр пад'язной дарогі да бельскай шашы, адрамантаваць вулічнае асвятленне, пракласці тэлефонную лінію. 18 жыхароў Кошак падалі заявы на пастаўку тэлефона, але да гэтай пары сувязісты ўсё маўчаць. Няма ў нашай вёсцы і свайго раднага, а толькі назначаны нам з Пашкоўшчыны.

Дачка купіла мне кватэру ў блёку ў Бельску-Падляшскім, але мяне ў горад не цягне, бо я люблю вёску і работу. Пасадзіў я 15 сотак трускалак, якія трэба сабраць. За лубянку (2,35 кг) плацяць 3 зл. Люблю свае Кошкі, тут такая прыгожая сельская прырода, цішыня і спакой, такое чыстае паветра...

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*

# Апошняе царскае паляванне ў Белавежы

[1 ☞ працяг]

Адны вярталіся ў палац, другія — у свае дамы. Трэба яшчэ тут заўважыць, што ў аглядах звярыны прымала ўдзел шматлікая група людзей з-за межаў пушчы. Нярэдка можна было ўбачыць жыхароў Гродна, Беластока, Брэста. Пасля штрэкі звярыну пераносілі ў палацовую лядоўню. Частку адпраўлялі ў Пецярбург.

Падчас знаходжання ў Белавежы царыца перасылала прыдворнай службай ласункі і школьныя прылады вучням мясцовых школ. Школьнікі адзячвалі ў момант пераезду цара на паляванне гучным пажаданнем „Боже, царя храни". У нядзелю цар з сям'ёй і гасцямі абавязкова прысутнічаў на багаслужбе ў мясцовай царкве. Царская пара звычайна займала месца на правым баку храма. Царыцы падстаўлялі крэсла, якім яна час ад часу карысталася. На левым баку стаялі вучні. Спявалі два хоры — адзін састаўлялі школьнікі, другі —ураднікі. На заканчэнне багаслужбы цар падыходзіў да рэгента і, падаючы яму руку, дзякаваў за пяянне. Выхаду цара з царквы спадарожнічаў натоўп вернікаў. Яны расстаўляліся па абодвух баках алеі, якая вяла ў палац. Больш адважныя белавежцы выкарыстоўвалі той момант для перадачы цару сваіх прашэнняў. Нехк прабіваліся праз ахову, падалі перад імператарам на калені. Цар браў пакладзеныя на іх галовах прашэнні і потым іх разглядаў. Менавіта ў такі спосаб Антон Руско з Падаланаў дабіўся для сваёй вёскі дазволу пасвіць дамашнюю жывёлу ў лесе, а нейкая жанчына са Стачка атрымала бясплатна сасніну на пабудову дома.

Цар і яго госці выехалі з Белавежы недзе ў палове верасня. Услед за імі адправілі таварны састаў. Ніхто з белавежцаў не ведаў, што цара і яго сям'ю гасцявалі яны апошні раз.

Пасля прыезду ў Спалу, едучы экіпажам па вельмі выбоістай дарозе, царэвіч зазнаў вельмі цяжкага кровазліцця ў правым сцегнавым суставе і ў пахвіне. Яму з кожным днём было горш і горш. У Спалу прыехалі з Пецярбурга прыдворны педыятр граф. Раухфус і лейбхірург граф. Сяргей Фёдараў, аднак яны аказаліся бездапаможнымі. Царыца апошні паратунак бачыла ўжо толькі ў Распуціне. На жаль, яго якраз не было ў Пецярбургу, паколькі ён знаходзіўся ў сваёй роднай вёсцы Пакроўскае на Сібіры. Менавіта туды пачалі слаць дэпешы з просьбай аб аздараўляльную малітву. Праз нейкі час ад Распуціна прыйшла дэпеша, у якой ён паведаміў царыцу, што малітва была выслухана і Аляксей неўзабаве будзе здаровы. Гэтак і сталася!

**Пётр Байко**

# Верагодныя словы

За апошнія сем гадоў рыначнай эканомікі можна прыкмеціць многія перамены ў нашых вёсках. Будуюцца дарогі, водаправоды, ачышчальні сцёкаў. Там, дзе мясцовы самаўрад праяўляе зацікаўленне праблемамі свайго асяроддзя, а насельніцтва бачыць у гмінных чыноўніках сапраўднага гаспадара, там усё ідзе належным парадкам. Аднак трапляюцца мясціны, дзе людзі не знаходзяць агульнай мовы з войтам гміны. У такой вёсцы нічога не дзеецца. Вёска памірае сваёй смерцю. Вось, прыклад **Дубяжына**, адной з больших вёсак Бельшчыны.

З таго часу як друкавалася мая публікацыя „Дубяжын старэе" („Ніва" н-р 48 ад 26.11.1995 г.) мінула амаль два гады. А тут усё па-даўнейшаму.

Калі ў намнога меншых, суседніх Алекшах, Градалях ці Кошках жыхары карыстаюцца асфальтаванай вуліцай, дубяжынцы надалей збіваюць абутак на старым калдобістым бруку.

— Чаму так дзеецца? — пытаю адной чы Янку Тамчука, мясцовага раднага.

— Інакш быць не можа, — адказвае мой суразмоўца. — Людзі самі вінаваты! Гміна прапанавала: далажыце сваю лепту ў пабудову вуліцы, тады палажым асфальтавае палатно. А яны адказваюць: калі вашы аўтамабілі разбілі нам брук (возячы гравій з Алекшаўскай жвіроўні), тады вы і будуйце. Таму гміна неахвотна ставіцца да ўсялякіх інвестыцый у нашай вёсцы.

— Некалькі гадоў назад, — працягвае Янка Тамчук, — надумалі мы пабудаваць новую агароджу навокал могільніка. Дамовіліся на вясковым сходзе плаціць складчыну. Калі пачалі збіраць грошы, пачаліся спрэчкі. Некаторыя на другі дзень ужо прыходзілі забіраць свае ўзносы... І што ж можна сказаць пра такіх людзей...

„Нічога нельга прыбавіць, нічога нельга забраць" — гаворыць прымаўка. І на маю думку, радны ўсё сам сказаў. А яго словы, пэўна, верагодныя.

**Уладзімір Сідарук**

# Грыбы пад страхой

Сёлетняя выстаўка свежых грыбоў Белавежскай пушчы, якая экспанавалася ў Белавежы ў днях 20-23 верасня, была трэцяй па чарзе. Першая праходзіла ў 1993 г. Яе суарганізатарам быў вядомы на Беларусі міколаг, д-р Павел Міхалевіч. На жаль, яго ўжо няма сярод жывых. Дзве апошнія выстаўкі наладзіў у сваім памяшканні Цэнтр прыродазнаўчай адукацыі Белавежскага нацыянальнага парку. Ён і намераецца арганізаваць іх у наступных гадах.

На апошняй выстаўцы былі паказаны 150 відаў ядомых і атрутных грыбоў. Гэта няшмат, калі ўлічыць, што ў Белавежскай пушчы флора грыбоў ідзе ў тысячы відаў. Усё ж віноўнікамі тут не з'яўляюцца арганізатары, а неспрыяльнае для грыбоў надвор'е: было надта суха і холадна. У пошуках грыбоў у пушчу выпраўляліся вучні мясцовага лясного тэхнікума і аднаго з варшаўскіх ліцэяў, затым працаўнікі нацыянальнага парку. Увесь збор размеркавала па відах прафесар Познанскага універсітэта, Анна Мар'я Буякевіч. Памагаў ёй яе сын Павел.

Гэтай выстаўцы спадарожнічала іншая — фатаграфічная, падрыхтаваная Гжэгажам Аколавым, вядома, пра грыбы. Школьнай моладзі дэманстраваліся „грыбныя" дыяпазітывы. Наведвальнікі мелі таксама магчымасць купіць выданні на прыродазнаўчыя тэмы — прададзена іх на звыш 500 зл.

Выстаўку наведала больш за 1 100 асоб.

**Пётр Байко**

# Нашы мястэчкі і вёскі

**Гміна Дубічы-Царкоўныя** мае сельскагаспадарчы характар. На тэрыторыі гміны галоўным чынам вырошчваюцца жыта, авёс і бульба. На лепшых грунтах у вёсках Грабавец, Тафілаўцы. Карыцкі, Стары Корнін і Ягаднікі сяляне спецыялізуюцца ў жывёлагадоўлі (авечкі, быдла і свінні). Многія вяскоўцы займаюцца яшчэ пляценнем вырабаў з саломы, сена, лазы і бярозавага хворасту.

Гміна ляжыць у паўднёва-ўсходняй частцы Беластоцкага ваяводства і займае плошчу велічынёю амаль у 150 квадратных кіламетраў, на якой у 17 вёсках пражывае 2 400 жыхароў. Шчыльнасць насялення складае 18 чалавек на 1 кв. км. У групе малалюдных вёсак найбольшай з'яўляецца Старына.

**Старына**, распаложана на ўскраіне Белавежскай пушчы пры граніцы з Беларуссю, налічвае 58 жыхароў (42 дарослых і 9 ва ўзросце да 18 гадоў). Працуе тут цэнтр адпачынку (з купальным басейнам) на 50 месц. У 1994 г. традыцыйная вугальная кацельня, якая забруджвала навакольнае асяроддзе і пагражала векавым соснам і піхтам, была заменена газавай. Пераважна адпачывае тут моладзь.

А вось колькасць жыхароў у іншых вёсках: Доўгі Брод — 45 чалавек (у тым ліку 43 дарослых і 2 непаўналетніх), Гурны Груд — 32 (30 і 2), Пяскі — 31 (27 і 4), Пасечнікі-Малыя — 27 (26 і 1), Сямівалокі — 24, Забагонне — 19 (16 і 3), Дубінка — 17, Круглае — 16 (11 і 5), Краскоўшчына — 14, Якубава — 8, Клякава — 5, Выган — 5, Нікіроўшчына — 4. У Сямівалоках жыве Яўген Галашэвіч — узорны селянін, які спецыялізуецца ў гадоўлі малочных кароў. А ў Круглым (уся вёска на здымку) пе



раважную большасць насельніцтва складае сям'я, якая жыве ў адным доме.

У наваколлі Гурнага Груда, Клякава, Выгана і Круглага з лесу выходзяць зубры. Маюць тут свае гнёзды арлыкрыкуны, многія віды соў і каршуны. У лясах Дубіцкай гміны водзяцца сарны, алені і дзікі, можна тут сустрэць таксама рысяў, янотаў і ваўкоў.

**Міхал Мінцэвіч** *(фота аўтара)*

# Мітусня пасля выбараў

Пераможцамі на парламенцкіх выбарах сталі АВС (201 пасол і 51 сенатар) і Унія вольнасці (60 паслоў і 8 сенатараў), якія набралі больш галасоў, чым прадбачвалі перадвыбарчыя апытанні. Хаця палітыкі Саюза левых дэмакратаў паказвалі сваё задавальненне, што набралі больш галасоў чым чатыры гады таму, аднак атрымалі менш мандатаў (164 паслы і 28 сенатараў). Неахвотна да свайго пройгрышу прызнаўся Вальдэмар Паўляк, які за дрэнныя рэзультаты ПСЛ абвінавачвае СЛД (ПСЛ мае 27 паслоў і 3 сенатары). Намнога менш галасоў чым спадзяваўся атрымаў Рух адбудовы Польшчы (РАП) (6 паслоў і 5 сенатараў). Ні ў паслы, ні ў сенатары не папалі кандыдаты Уніі працы, якія набралі толькі 4,7 прац. галасоў. Двух паслоў увяла нямецкая меншасць, а 5 сенатараў лічацца незалежнымі.

Адразу пасля ўступных вынікаў галасавання (на афіцыйныя трэба было пачакаць да чацвярга) пачаліся спекуляцыі наконт саюзаў пры стварэнні ўрада. Палітыкі АВС заявілі, што хочуць размаўляць аб стварэнні ўрада з усімі апрача Саюза левых дэмакратаў. Унія вольнасці ахвотна створыць урад з АВС, без ПСЛ і РАП. Гэтая мітусня не прадвяшчае лёгкіх размоў і хуткага стварэння ўрада. Перадвыбарчая праграма Уніі вольнасці наблііжана да СЛД, але ўсе, хіба апрача ПСЛ, заяўляюць, што не будуць ствараць урад з левымі дэмакратамі. Калі праграма АВС (змена канстытуцыі, падыход да абортаў і іншыя) напісана была толькі для выбаршчыкаў, магчымым становіцца ўрад (УВ + АВС). Аднак кааліцыя АВС + УВ будзе даволі слабая і не зможа адкідаць вета прэзідэнта. Як гэтыя змены ў парламенце і новы ўрад паўплываюць на нашыя беларускія справы, і ці ўвогуле паўплываюць, пакажа час. На жаль, беларускія выбаршчыкі вырашылі, што рашаць за нас будуць іншыя.

**Аляксей Мароз**

# Як галасавала Гайнаўка

Сярод беларускіх кандыдатаў у Сейм найбольш галасоў у Гайнаўцы ўзялі: Яўген Чыквін (579 галасоў) і Яўген Вапа (409 галасоў). Мала гайнаўлян прагаласавала за Яна Сычэўскага (136 галасоў), а амаль незаўважальным аказаўся Мікола Яноўскі (45 галасоў).

Гайнаўка, як і раней, прагаласавала за Уладзімежа Цімашэвіча, які разам з іншымі левымі дэмакратамі атрымаў 50,8% галасоў. На другім месцы была АВС — 18%, на трэцім Праваслаўныя — 13% (лідэрам якіх Яўген Чыквін), на чацвёртым месцы Унія працы — 8,1% (найбольш галасоў сабраў тут старшыня Беларускага саюза Яўген Вапа), далей Унія вольнасці — 4%. Іншыя правыя партыі і арганізацыі ў змаганні не лічыліся. Прысутнасць на выбарах была меншая чым у краіне — 46%. Гэта значыць, што большасць жыхароў не рашылася аддаць свой голас, расчараваная апошнімі ўрадамі, а некаторыя таксама і сваімі цяжкімі матэрыяльнымі ўмовамі жыцця. На жаль, знеахвоціць чалавека вельмі проста, але яго намовіць да актыўнасці на выбарах вельмі цяжка. Маглі быць гэта і галасы на беларускіх кандыдатаў. Прыхільнікі СЛД і АВС пайшлі на выбары сцяною.

Намнога раней, чым паявіліся ў Гайнаўцы плакаты і лістоўкі з беларускімі кандыдатамі, жыхары горада маглі пабачыць па тэлебачанні і пачуць па радыё выказванні чатырох беларускіх кандыдатаў у Сейм: Яўгена Вапы, Яна Сычэўскага, Яўгена Чыквіна і Міколы Яноўскага.

Вырашыў я наведаць чатыры выбарчыя ўчасткі, дзе беларусы выйгралі на самаўрадавых выбарах тры гады таму. Размешчаны яны каля сябе, у кварталах: Пашкі, Ліповая, Мазуры. Сярод беларускіх лідэраў і ў гэтых чатырох акругах пераможцамі аказаліся: — лідэр спіска ЗСНМ Праваслаўныя Яўген Чыквін (252 галасы) і Яўген Вапа — старшыня Беларускага саюза (216 галасоў). Мала гайнаўлян аддало свой голас на старшыню БГКТ Яна Сычэўскага (47 галасоў) і Міколу Яноўскага (19 галасоў).

Выбарчы ўчастак н-р 1 знаходзіцца ў Доме культуры „Гурнік", н-р 3 — у школе падставовай н-р 6 на Мазурах, н-р 5 — у прадшколлі на Ліповай, н-р 7 — у сталовай бальніцы на Ліповай.

Галасы гайнаўскіх беларусаў на Уладзімежа Цімашэвіча, бо іншыя левыя дэмакраты карысталіся малой папулярнасцю, яшчэ раз паказалі, што свой беларускі пасол не патрэбны. Аптымізм паяўляецца толькі тады, калі паглядзець на маладых. Многія з іх прагаласавалі за старшыню Беларускага саюза Яўгена Вапу.

*Вынікі ў чатырох выбарчых акругах*

| Выбарчы ўчастак | Я. Вапа | Я. Сычэўскі | Я. Чыквін | М. Яноўскі |
|---|---|---|---|---|
| ВУ н-р 1 | 81 | 15 | 93 | 11 |
| ВУ н-р 3 | 50 | 14 | 78 | 5 |
| ВУ н-р 5 | 57 | 13 | 50 | 3 |
| ВУ н-р 7 | 28 | 5 | 31 | 0 |
| **Агульная колькасць галасоў** | **216** | **47** | **252** | **19** |

**Аляксей Мароз**

# Уваход пасла

Тыдзень пасля выбараў журналісты беларускіх праграм на беластоцкім радыё і тэлебачанні правялі размовы з лідэрамі нашых арганізацый, якія змагаліся за галасы тутэйшага праваслаўнага электарату. Пераможцам, як вядома, традыцыйна стаў тут польскі палітык Уладзімеж Цімашэвіч, на якога прагаласавала каля 80 працэнтаў праваслаўных выбаршчыкаў. Паслом ад СЛД, хаця атрымаў толькі 1688 галасоў, стаў таксама старшыня БГКТ Ян Сычэўскі. Вынік гэты можа асабліва здзівіць, пакольскі арганізацыя, якою кіруе спадар Сычэўскі, налічвае сем тысяч членаў. У першым публічным выступленні новы наш пасол заявіў, што будзе адстойваць інтарэсы праваслаўных і беларусаў Беласточчыны. Ацэньваючы паслявыбарчую сітуацыю ў Польшчы заявіў, што ўладу ў краіне перайма́ць будуць нацыянальна-клерыкальныя сілы, звязаныя з Каталіцкім касцёлам, што не прадказвае нічога добрага для нацыянальных меншасцей. Калі левыя былі пры ўладзе, заўсёды лепш жылося беларусам, — дадаў пасол, выступаючы 28 верасня ў студыі Беластоцкага радыё.

Гэта прыемна, калі ўсе маюць права адчуваць, што ў іх ёсць свой пасол, але яшчэ больш прыемна было б, каб нашы знакамітыя палітыкі выступалі толькі ад тае часткі грамадства, якая за іх прагаласавала. З пункту гледжання агульнабеларускіх інтарэсаў найменш нам патрэбны антыксяндзоўскія выступленні палітыка, які ў Сейме каталіцкай Польшчы хоча вырашаць праблемы беларускай меншасці. Асабліва, калі для такой рыторыкі, пакуль што, няма выразнай патрэбы. Тое, што можа быць карыснае СЛД, не заўсёды можа супадаць з нашымі нацыянальнымі інтарэсамі. Выкарыстоўванне беларускага страху — гэта ў тутэйшай палітыцы нічога новага. Дзесяткамі гадоў стваралася тут такая сітуацыя, каб беларусы безупынна баяліся, хаваліся са сваёй нацыянальнасцю і веравызнаннем. Нідзе, дарэчы, столькі Колькаў не перахрысцілася на Казікаў, а Васькаў на Вацкаў, як у Ваяводскім камітэце ПАРП. Чаму?! Дзеці тых інтэрнацыяналістаў праваслаўнага паходжання найчасцей цяпер сядзяць у касцельных лаўках. Беларускую мову не пачуеш не толькі на вуліцы ў Беластоку, але таксама не пачуеш яе ні пад царквой, ні сярод публікі на бэгэкатоўскім фэсце. Вынікі кожных выбараў пасля 1989 года паказваюць, колькі асталося тае беларускасці на Беласточчыне. Але якім чынам магло б быць інакш, калі ў сямідзесятых гадах „найбольш прагрэсіўныя інтэрнацыяналістычныя сілы" давялі бэгэкатоўскіх лідэраў да такога стану, што самі яны прасілі асветныя ўлады ліквідаваць апошнія школы з беларускай моваю навучання.

Наіўнасцю было б чакаць прыхільнасці ці падтрымкі для беларусаў з боку салідарнікаў, якія перамаглі на выбарах, але таксама недарэчнасцю ёсць спалучанне інтарэсаў народа з інтарэсамі другога канкурэнтнага лагера. Зразумела, што сярод нашых гмінных палітыкаў дарма шукаць свайго Чэрчыля, які на пастаўлены яму закід у супрацоўніцтве падчас вайны са Сталінам і Савецкім Саюзам адказаў: „Англія не мае пастаянных сяброў, ні пастаянных ворагаў, Англія мае пастаянныя інтарэсы".

Пасол Сычэўскі нядаўна заявіў таксама, што гатовы шукаць паразумення з іншымі беларускімі арганізацыямі, якія „праяўляюць талерантнасць і шануюць дэмакратыю". „БГКТ, Талерантнасць, Дэмакратыя" — гучаць цалкам арыгінальна.

**Яўген Міранович**

# „Наша ніва" і ўсходняя Беласточчына

**Частка 1**

Першая беларуская масавая газета „Наша ніва" адыграла велізарную гістарычную ролю ў галіне беларускай нацыянальнай свядомасці, грамадскай думкі, літаратуры і публіцыстыкі, беларускай асветы і культуры.

Значэнне гэтага тыднёвіка ў многіх галінах разгледжана і ахарактарызавана ў сотнях навуковых і публіцыстычных артыкулаў. Як дагэтуль ніводзін з даследчыкаў не разглядаў ролі „Нашай нівы" ў асвятленні жыцця беларусаў усходняй Беласточчыны. А тым часам на старонках гэтага выдання публікацыі аб жыцці ў нашым рэгіёне паяўляліся вельмі часта. І таму існуе патрэба прыглядзецца да тых артыкулаў, інфармацыяў і звестак, якія датычылі побыту нашых бацькоў і дзядоў.

Перад тым як дэталёва характарызаваць прысвечаныя ўсходняй Беласточчыне публікацыі, затрымаемся над агульнай характарыстыкай слаўнай беларускай газеты, якая стварыла ў палітычным, грамадскім і літаратурным жыцці прыгожую эпоху, якая адзначалася максімальным духам нацыянальнай незалежнасці. Нягледзячы на тое, што „Наша ніва" выдавалася ў варунках знявoленай Беларусі, тыднёвік ніколі не праяўляў нават мінімальнага сервілізму ў адносінах да вялікадзяржаўнай імперыяльнай Расіі і заўсёды высока нёс штандар беларускага нацыянальнага духу.

Нагодай да майго зацікаўлення „Нашай нівай" быў юбілей дзевяностагоддзя гэтага тыднёвіка, які быў заснаваны ў верасні 1906 года.

Аднак трэба сказаць, што папярэдніцай „Нашай нівы" была „Наша доля", першы нумар якой выйшаў у свет 1 верасня 1906 года. Ініцыятарам і выдаўцом як аднага так і другога штотыднёвіка была Беларуская сацыялістычная грамада — першая поўнасцю нацыянальная беларуская партыя, якая ўзнікла ў 1902 годзе пад пачатковай назвай Беларуская рэвалюцыйная грамада. Галоўнымі арганізатарамі гэтай партыі былі браты Антон і Іван Луцкевічы, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Алесь Бурбіс, Казімір Кастравіцкі (Карусь Каганец), Францішак Умястоўскі.

Партыя гэта пастанавіла выдаваць свой тыднёвік „Наша доля". Сталася гэта магчымым пасля 1905 года, калі канчаткова была анулявана пастанова царскага ўрада аб забароне беларускай мовы ў друку, якая абавязвала ў Рускай імперыі пасля ўпадку студзеньскага паўстання 1863 года.

Тыднёвік „Наша доля" меў радыкальны характар і таму амаль кожны з шасці нумароў быў канфіскаваны царскай цэнзурай.

Ужо ў другім нумары тыднёвіка паявілася інфармацыя такога зместу:

„Першы нумар „Нашае долі" па прыказу Віленскага губернатара паліцыя канфіскавала. Разышлася толькі палавіна — пяць тысячаў, а пяць тысячаў паліцыя забрала, так што нічога схаваць не ўдалося і дзеля таго выслаць першы нумар нікому не можам".

Варта сказаць, што „Наша доля" так зрэшты як пазней „Наша ніва", выдавалася двума шрыфтамі: гражданкай і лацінкай. Выдаўцы зыходзілі з прынцыпу, што беларусы-праваслаўныя зацікаўлены газетай, выдаваемай гражданкай, а беларусы-католікі — лацінкай. Зрэшты, момант гэты праявіўся ў загалоўку і падзагалоўку тыднёвіка, у якім гаварылася наступнае: „Наша Доля", першая белорусская газета для вёсковаго і местоваго рабочаго народу. Выходзиць раз у тыдзень рускими и польскими литерами".

**Алесь Барскі**

# Ці ж не згневае такое жыццё?

**Расказвае Сіман СВЕНТАХОЎСКІ, жыхар Вялікіх Тыневічаў.**

Мужчыны ў нашай сям'і насілі розныя мундзіры. Бацьку прызвалі ў царскую армію ў 1914 годзе. Ваяваў ён на франтах І сусветнай вайны, прымаў удзел у кастрычніцкай рэвалюцыі. Мундзіра не скідаў чатыры гады. Брата ўзялі ў Савецкую Армію ў 1941 годзе, а дэмабілізавалі толькі ў 1946. Па дарозе зведаў усяго, між іншым абараняў Сталінград. Стрыечны брат быў вывезены ў Расею, адкуль трапіў у Армію Андэрса. Прайшоў праз Іран, Ірак, Палесціну, Паўночную Афрыку пад Табрук, а потым пад Монтэ-Касіна. Там быў паранены, праляжаў паўтара года ў шпіталі, страціў 70% здароўя. Пасля гэтага сказалі яму: вы ўжо нам непатрэбны.

Я быў у польскім санацыйным войску. Адбыць чынную службу паклікалі мяне ў 1935 годзе, у Седльцы. Спачатку зрабілі нам псіхалагічныя абследаванні, а потым экзамены, як я зразумеў, для службы сувязі. Пасля праверкі запісалі нашыя даныя, хто як называецца, адкуль і так далей. Ну то я кажу ім, што праваслаўны, беларус.

— Co, Białorusin? Takie polskie nazwisko. A matka jak się nazywała?

— Frankowska.

— Też polskie. Kiedy poszedł do Białorusów?

Я кажу ім, што не ведаю калі і якім чынам. Толькі продкі мае, спакон вякоў, ужо былі беларусамі. А ці сталі яны імі па сваёй волі ці пад прымусам, я не ведаю. Той плютановы, які мяне апытваў, пабег адразу да капітана:

— Panie kapitanie, melduję, że nam tu jakichś Białorusów poprzysyłali!

— A kto tu Białorusin? Świętochowski? To kłamie.

І абодва падходзяць да мяне.

— Co, nie chcecie u nas być?

— Ja nie wiem, gdzie ja mam być, tylko jak mnie pytają kim jestem, to odpowiadam.

— Naprawdę Białorusin?

— Naprawdę.

— Nie, to taki u nas nie może być. Zabierajcie swoje manatki.

Ну і замест сувязі, трапіў я ў пажарную ахову.

Другі раз мабілізавалі мяне 27 жніўня 1939 года. Як заехаў я ў Слонім, то ўжо там войска мала было, бо паехала на фронт. Уначы я там пільнаваў будынкаў ад пажару, а ўдзень працаваў грузчыкам. Грузіў вагоны, якія ішлі на фронт. Толькі мяне на фронт не пасылалі, не ведаю чаму, можа таму, што праваслаўны? Але як прыязджалі хлопцы з фронту, то пыталіся мы, як там.

— А што тут гаварыць, шаржы няма, войска не ведае, што рабіць. Балаган.

Калі стала вядома, што саветы вуступілі, то камандзір распусціў нашу часць. Аддалі нам цывільную вопратку і дзесяць за тыдзень прыйшоў я дадому. На другі ці трэці дзень, едучы на ровары ў Бельск, бачыў каля шашы надпісы: „Не стрелять! Здесь германские войска!" А ў Катлах у шчыце клуні вісеў вялікі, бы ходнік, чырвоны сцяг з белым кругам усярэдзіне, на якім намаляваны быў паламаны крыж. Іхняя свастыка. Але немцаў то я ўжо не бачыў.

* * *

Якія б у нас арміі не паяўляліся, нічога добрага не прыносілі. Калі мяне мабілізавалі, то бацька адвёз мяне возам у Орлю. Там канфіскавалі і каня, і воз. Далі асігнацыю, то па сённяшні дзень яна ляжыць. І хто мне і калі за гэта верне?

Як немцы другі раз прыйшлі, у 1941 годзе, то яшчэ другога каня і воз узялі. А як саветы гналі немцаў, то забралі двое коней. Палічыце, колькі я коней, колькі вазоў страціў на гэтых франтах.

Меў я падрыхтаванае дрэва на хату. Забралі яго ў 1944 саветы на ўзарваныя немцамі масты. Я потым ездзіў у гміну і прасіў вярнуць мне тое самае дрэва або даць за яго новае. Па ім некалькі гадоў яшчэ ездзілі. А як зрабілі новыя масты, то аднаму чалавеку з вёскі прадалі на апал. Калі я пабудаваў хату і ўжо печ стаяла, можна было пагрэцца, то прыйшло пісьмо, што магу, заплаціўшы грошы, загатовіць дрэва на хату.

Ці не згневае такое жыццё?

**Запісаў Мікола ВАЎРАНЮК**

# Як паміраць, дык на Бацькаўшчыне

**Пра бежанства расказвае Ян Рошчанка, 97-гадовы жыхар Чаромхі-станцыі.**

Нарадзіўся я ў 1900 годзе ў Мікулічах, што непадалёк Рагачоў, у Мілейчыцкай гміне. У бацькоў нас пяцёра было. Трох хлопцаў і дзве дзяўчынкі. Я лічыўся найстарэйшым.

Мікулічы — вёска не так ужо вялікая. Налічвала не больш як за паўсотні дамоў. Бацькі мае працавалі на дванаццацігектарнай гаспадарцы. Мелі свайго каня і хату. Нядрэнна жылося.

У 1915 годзе, калі немец ішоў на Расею, мясцовы святар загавараў у царкве, каб людзі пакідалі вёску і ўцякалі ў бежанства, бо „германец" усіх пагубіць. Большая частка жыхароў паслухалася і пачала рыхтавацца да дарогі. Пагрузілі і мы сваю маёмасць на фурманку. У Мікулічах засталося некалькі старэчаў.

— Дзе ж нам па свеце бадзяцца, — казалі, — калі кастуха з-за плячэй выглядае. Як паміраць, дык на Бацькаўшчыне.

З падарожжа нічога ў маёй памяці не засталося. І хоць тады падросткам я быў, не цікавіўся, проста, гэтым. Ехалі на сваёй падводзе, разам з іншымі бежанцамі ў глыб Расеі. Спыніліся ў вёсцы Васкрасёнаўка Варонежскай губерні. Гэта непадалёк Трацякоў, велізарнага хутара, што над рэчкаю Хапёр раскінуліся.

Памясцілі нас на кватэрах. Бацька пачаткова памагаў нашаму гаспадару ў полі, а таксама пры вытворчасці валёнак. Тут многія гэтым рамяством займаліся, паколькі воўны ўдосталь было. Гадоўляй авечак мясцовыя займаліся. Распаўсюджана была і жывёлагадоўля. Калі пад свята прыходзілася зарэзаць бычка, то з такога аднаго мяса на паўгода ўсім хапала. Зямля ўраджайнай была. Амаль усё пшаніцу сеялі. Траплялася і жыта. Хлеб пяклі белы і чорны ў рускіх вялікіх печах. За апал служылі кізякі і пучочкі моцна звязанай саломы.

Да бежанцаў мясцовыя адносіліся з вялікай ласкай. Яду дарэмна давалі. Бывала, што і вопратку прыносілі. Васкрасёнаўка была вялікай вёскай, як, зрэшты, усе мясціны ў наваколлі. Дамы пабудаваны былі з акуратна абрэзаных брусоў. Пакрытыя гонтай, а ў замажнейшых гаспадароў — бляхай.

У вёсцы знаходзілася царква і некалькі крамаў. Абеспячэнне таварамі было добрае. У нядзелю і пятніцу адбываліся кірмашы. Мяса ў кожнай сям'і хапала.

Як мы з бацькам навучыліся рабіць у гаспадара валёнкі, адкрылі сваю арцель. Я расчэсваў на ўласнаручна зробленай прыладзе воўну, а тату́ль яе раскачваў. Воўну прынасілі гаспадары сваю. За працу нам плацілі.

Збожжа касілі косамі. Былі і касілкі, аднак, нямнога, таксама як і малацілак.

Калі пачалася рэвалюцыя, у нашай мясціне было ціха. Фронт не праходзіў. Траплялася, што крыху адзін аднаго паганяў і на гэтым канчаліся сутычкі. Ніхто ў вёсцы не пацярпеў.

У бежанстве мы пражылі каля пяці гадоў. І хоць нядрэнна жылося нам, туга па родных мясцінах перамагла. Мы надумалі вяртацца дамоў, паколькі ў наваколлі многія з нашых ўжо павыязджалі.

У сельсавеце далі нам каня і падводу, а таксама пасведчанне на дарогу. Гэта пісулька была нашым амулетам у падарожжы. У ёй было запісана, што быццам бы наша падвода мае служыць кожнаму бежанцу, які патрабаваць будзе дапамогі. Хто з вайскоўцаў не чытаў нашу пісульку, зразу ж нас прапускаў далей. На гэтай фурманцы і з гэтым канём мы прыехалі ў свае Мікулічы.

У вёсцы бурліла ўжо жыццё. Многія перад намі вярнуліся. Мы памясціліся ў сваёй даўнейшай хаце. Была ненарушаная, хоць патрабавала рамонту. Гэта было восенню 1919 года.

Былі і такія з нашых бежанцаў, што, пабыўшы крыху ў вёсцы, вярталіся ў Расею. Так было з маёй сястрою Марыяй. Не захацела яна жыць у Мікулічах, паехала шукаць шчасця назад у Расею. Так і не вярнулася ніколі.

[працяг ☞ 8]

# Фальшаванне падляшскага фальклору

Выдавецтва „Беларуская навука" выдала падрыхтаваны ў Істытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АНБ кнігу „Песні Беласточчыны". Гэта чарговае выданне серыі „Беларуская народная творчасць", мэтаю якой ёсць паказаць багацце і разнастайнасць моўнай культуры беларусаў. Кніга — плён працы аднаго чалавека — Міколы Гайдука, які многімі гадамі, галоўным чынам у наваколлі Бельска, Гайнаўкі, Нарвы і Сямятыч запісваў мясцовыя абрадавыя і пазаабрадавыя песні. У зборнік увайшло іх ажно 607, у большасці раней публікаваных на старонках „Нівы" і „Беларускага календара".

На першы погляд зборнік, які фіксуе такое багацце, галоўным чынам падляшскага фальклору павінен цешыць як фалькларыстаў-навукоўцаў, так, як піша Віталь Луба („Ніва" ад 07.09.1997 г.), і настаўнікаў, аніматараў культуры і самадзейнікаў. Аднак, калі бліжэй пазнаёмімся з тэкстамі песень і параўнаем з першапачатковай публікацыяй, пабачым, што да гэтага трэба падыходзіць з вялікай памяркоўнасцю. Аказваецца, рэдактары кнігі Т. Дубкова, А. Ліс ды А. Фядосік палічылі, што ўсе тэксты з Падляшша трэба перакласці на беларускую літаратурную мову. Песні, такім чынам, найчасцей загубілі свой натуральны каларыт, мілагучнасць, рытміку і рыфму. Беларуская літаратурная мова розніцца ў многім ад падляшскіх рускіх гаворак Бельшчыны, Гайнаўшчыны і Сямятыччыны. Таму прэзентаваны ў кнізе матэрыял можна разглядаць адно ў кантэксце формы песні, яе сюжэту, а не паэтычнага твора і запісу старажытнай лексікі.

Возьмем, для прыкладу, адну з песень, запісаную даследчыкам у вёсцы Мікулічы каля Мілейчыч. Спявачкі Ніна Такаюк і Яўгенія Вішанка заспявалі яе такімі словамі:

*Ны літай мотылю по-над білым стэлём,*
*Ны робы пороху на маю постэлю,*
*На моїй постэлі подушкі білыя,*
*Ой тышатся мною ворогі тяжкія (...)*
*Шумыла ліщына, як се розвывала*
*Плакала дівчына, як се выдавала...*

У такім запісе песня была апублікавана ў „Беларускім календары" за 1981 год.

У кніжцы „Песні Беласточчыны" загучала яна зусім інакш:

*Не лятай, матылю, па-над белым сцелем,*
*Не рабі пароху на маю пасцелю.*
*На маёй пасцелі падушкі бялыя,*
*Ой, цешацца мною варагі цяжкія (...)*
*Шумела ляшчына як развівалася,*
*Плакала дзяўчына, як выдавалася...*

Фактычна, у адносінах да арыгіналу зменены тут кожнае слова. Абавязкова тут дзеканне, цеканне, аканне да непазнавальнасці змяніла шмат іншых твораў. Дзіўнае, навошта столькі працы было ўкладаць рэдактарам кніжкі для перакладу песняў. Ці не лепш затрачаныя на гэта сродкі і час было прызначыць на пашырэнне аб'ёму кніжкі дадатковымі нотамі ды шырокімі каментарыямі фальклорнага характару.

А так атрымалася пэўная містыфікацыя падляшскага фальклору. Вось, уявім сабе драму, што раптам недзе прападаюць усе існуючыя гадавікі „Нівы", „Беларускія календары" ды рукапісы Міколы Гайдука. Застаюцца толькі „Песні Беласточчыны". І яны фактычна прадстаўляць будуць сабою першакрыніцу. Але чаго? Бо да жывых інфарматараў хутка ўжо не зможам дайсці.

Таму і не хачу рэкамендаваць згаданага зборніка настаўнікам ды самадзейнікам як спеўніка і дапаможніка. Можа ён служыць адно добрым бібліяграфічным паказальнікам і арыенцірам у жанравай разнастайнасці песень.

Фальшаваннем руска-падляшскага фальклору займаюцца не толькі даследчыкі з Беларусі. У аднолькавай ступені робяць гэта і ўкраінскія фалькларысты. Вось у зборніку „Холмщина і Підляшша" (Кіеў 1997) у адным з артыкулаў аўтарка Елізавета Рыжык прыводзіць сенакосную песню з Тыневіч-Вялікіх каля Нарвы: „Журылася Катэрына, што й нэ скошэна доліна". Аўтарка або рэдактар тэксту палічылі, што пэўныя словы трэба падправіць пад украінскую літаратурную мову. І так, арыгінальныя тыневіцкія словы: *што, косіті, попросіті, выкосіті, жыті, піті, тулькі* пазамянялі адпаведна на: *що, косыты, попросыты, выкосыты, жыты, піты, тількы.*

Такія маніпуляцыі беларускіх і ўкраінскіх ці польскіх фалькларыстаў напэўна не надта добра служаць захаванню аўтэнтычнага падляшскага фальклору. А беларусы, замест ганарыцца, што песенны фальклор Падляшша захаваў старабеларускую мову ў шматлікіх яе праявах, з сорамам хаваюць гэту свячу пад спудам.

**Дарафей ФІЁНІК**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Завітайце ў прадшколле



*Пастаноўка п'есы „Восеньскія скарбы".*

Беларускі дзіцячы садзік у Беластоку. У калідоры сустракае нас насценная газета з каляровымі праваслаўнымі крыжыкамі. Побач аб'явы і беларускія вершы. Сярод вясёлага гоману дзетак чуваць беларускую мову. Дашкольнікі рашылі пайсці збіраць каштаны. Многія з іх вітаюцца з „Зоркай". Ужо трэці год дзейнічаюць два аддзелы польска-беларускага прадшколля.

— Зараз у нас сорак дзяцей, — кажа настаўніца Альжбета Бурачэўская.

Найбольш, бо аж пятнаццаць, пяцігодкаў.

— Дзеці, якія ўжо трэці год ходзяць у садзік вельмі *файныя*, — кажа настаўніца. — Яны адважныя, лёгка наладжваюць кантакты з іншымі, самастойныя. Ну і вельмі кахаюць артыстычныя заняткі. Увесь час гулялі б у тэатр або займаліся рытмікай і танцамі.

Як успрымаюць яны беларускую мову? Аказваецца, яна для іх вельмі натуральная, свая. Праўда, большасць у хаце размаўляе па-польску. Аднак у прадшколлі гэтая мова ім падабаецца. А хіба найбольш беларускія казкі. Дзеткі маглі б іх слухаць, здаецца, увесь час.

Настаўніца А. Бурачэўская гаворыць пра планы на найбліжэйшую будучыню.

— Неўзабаве хочам наладзіць экскурсію ў Тапілец. Дзеткі ўжо два разы гасцявалі ў матушкі Аліны і бацюшкі Славаміра Якімюкоў.

Настаўніцы — Альжбета Бурачэўская, Ева Гняздоўская, Галіна Іванюк і Альжбета Рудчук рыхтуюць чарговы спектакль з дзеткамі. Яны хочуць паказаць бацькам і аднагодкам з польскіх аддзелаў беларускія дажынкі.

— Спадзяемся, што хутка пачнуцца і рэпетыцыі тэатра, у якім удзельнічаюць бацькі дашкольнікаў, — кажа мая субяседніца.

Яна адзначае таксама, што дашкольнікі будуць ладзіць артыстычныя мерапрыемствы з вучнямі ПШ н-р 4, якія ходзяць на беларускую мову.

— Нашыя дзеткі вельмі сябруюць, — кажа А. Бурачэўская. — Калі да нас завітае нехта з выпускнікоў, адразу падымаецца вясёлы гул прывітання. Дзеткі са старэйшых аддзелаў усе добра знаюцца. Гэтае сяброўства цягнецца і пасля заканчэння прадшколля. Вось, на той прыклад, сядзяць яны ў адной парце ў школе.

У беларускім садзіку ёсць магчымасць вывучаць англійскую мову. Многія дашкольнікі ходзяць на басейн. У прадшколлі новая настаўніца рэлігіі — матушка Ірэна Ярацэвіч. Урокі Закону божага вядзе яна на беларускай мове.

— Хацелася б хутчэй сустрэцца на нашым артыстычным мерапрыемстве, — развітваемся.

Ужо ў палове кастрычніка дзеткі і настаўнікі просяць усіх зацікаўленых паглядзець іх спектакль „Дажынкі".

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*



*„Вяселле" — спектакль дзетак і бацькоў.*

# Першы парламент Беларусі

У красавіку 1917 года праходзіў у Менску Беларускі нацыянальны з'езд. Яго ўдзельнікі — прадстаўнікі беларускіх арганізацый — вырашылі тады, што Бацькаўшчына можа існаваць у межах дэмакратычнай расейскай дзяржавы. 8 ліпеня пачаўся другі з'езд беларускіх партый і арганізацый, які вырашыў стварыць сваю нацыянальную армію. Шмат дэлегатаў прапанавала аднавіць дзяржаўную унію з Літвой, аднавіць Вялікае княства Літоўскае.

Бальшавіцкі пераварот у Расеі адмяніў палітычную сітуацыю ва ўсёй усходняй Еўропе. На Беларусі таксама ўладу пры дапамозе арміі захапілі камісары Леніна — Фрунзе, Ландэр, Кнорын. Беларускія арганізацыі не спадзяваліся, што ў Расеі так хутка памрэ дэмакратыя. Камуністы, аднак, спачатку прабавалі пераканаць грамадства, што шануюць волю кожнага народа і ад імя люду вырашылі перайсць уладу. Іх правадыр — Ленін — выдаў дэкрэт, у якім гаварылася, што кожны народ мае права на свабоду ў вырашэнні свайго лёсу. Паверыўшы бальшавікам беларускія палітыкі склікалі 14 снежня 1917 года ў Менску Усебеларускі кангрэс, каб канчаткова акрэсліць будучыню народа і Бацькаўшчыны. Сабраліся 1872 дэлегаты ад усіх рэгіёнаў Беларусі, ад усіх грамадскіх і палітычных арганізацый, прафсаюзаў, органаў самакіравання. Былі таксама прадстаўнікі Беласточчыны. Падчас бурлівых нарадаў штораз больш дэлегатаў выказвалася за выбар шляху да незалежнасці Беларусі. Бальшавікі, хаця гаварылі пра свабоду на самавызначэнне народамі свайго лёсу, на практыцы аднак не выракаліся расейскай імперскай традыцыі. 30 снежня ўзброеная арда бальшавікоў уварвалася ў Менскі гарадскі тэатр, дзе адбываўся кангрэс і разагнала дэлегатаў. Кангрэс, аднак, паспеў стварыць Выканаўчы камітэт і даць яму паўнамоцтвы прадстаўніцтва беларускага народа. Пасля акцыі бальшавікоў амаль усім дэлегатам стала зразумелым, што годна жыць можна толькі ў сваёй дзяржаве.

## *Вершы Віктара Шведа*

### Ці не зарана?

Малога хулігана
Страшэнна людзі лаюць:
— Скажы, ці не зарана
Курыць ты пачынаеш?

Не сорамна малому,
Пачаў ён агрызацца:
— Не рана ўжо, вядома,
Магчыма што дванаццаць.

### Добрых людзей пазнаем у бядзе

Прыгадаў Ягорка
Такую пагаворку:
Заўжды добрых людзей
пазнаем у бядзе.

Ягорку запытаў
Разумнік Яраслаў:
— А ці ж варта бяднець
Каб людзей добрых мець?

## Восень-гаспадыня

Лятаюць, кружацца рудыя
Над полем
Ніці павуцін...
Выходзіць восень-гаспадыня —
Стракатым лісцем шапаціць.

Асіна, ліпа,
Клён, бяроза
Нам дораць першыя лісты...
Якое мноства фарбаў розных:
Чырвоных,
Жоўтых,
Залатых!

— Да пабачэння, лета! —
Дружна
Махаем мы. Лістоты рой
Віхор паспешліва закружыць
Над вераснёўскаю зямлёй.

Пад вечар з сонейкам,
У далях,
Яшчэ змагаецца туман
І, адступіўшы, асядае
На забалочаны дзірван.

**Мікола Бусько**

# Конкурс, конкурс, конкурс!

***(літаратурныя гульні)***

Адкажыце на пытанні. Адказы дашліце ў „Зорку" на працягу трох тыдняў. Аўтары правільных адказаў могуць выйграць ва ўзнагароду беларускія кніжкі.

1. Назавіце сапраўднае прозвішча выдатнага беларускага празаіка Кузьмы Чорнага.
2. У якім годзе нарадзіліся класікі беларускай літаратуры Янка Купала і Якуб Колас?
3. Хто напісаў верш „Люблю наш край, старонку гэту"?
4. Назавіце прынамсі два зборнікі паэзіі „белавежца" Яна Чыквіна.
5. Хто з'яўляецца аўтарам апавядання „Пяць лыжак заціркі"?

**Зорка**

# Шчодрая вавёрка

*(Казка)*

Выглянула вавёрка з гнязда і бачыць: густы морак за сіні ельнік скаціўся, віднецца пачало.

„Гэта ж рання птушка, кажуць, дзюбку працірае, а позняя — вочы прадзірае" — успомніла вавёрка і на палянку пабегла.

А на палянцы сунічак, салодкіх і духмяных, еш — хоць распеража́ся.

Паласавалася вавёрка ягадамі і пачала іх у збаночак збіраць.

Ягадка да ягадкі — і поўны збаночак.

Усё лета старалася вавёрка. Бо ведала: што летам прызапасіш — зімой як знойдзеш. Акрамя сунічак, малінназбірала, ажын. Каля азерца на густыя кусты шыпшыны натрапіла — і яе не прамінула.

Восенню баравікоў насушыла. Пра арэхі і жалуды таксама не забылася.

Ажно ў чатырох дуплах схавала свае запасы вавёрка.

А хутка і зіма прыйшла. Студзень зямлю студзіць, рана лясных жыхароў будзіць.

Прачнулася і вавёрка. Вылезла з гнязда і да дупла заспяшалася, у якім яе сунічкі ляжалі. Скача з галінкі на галінку, ажно раптам палятуху бачыць. Сядзіць тая на паваленай ветрам асіне і плача. А над палянкаю, ад крыку заходзячыся, сойка з арэхаўкай кружаць.

Вавёрка скокнула ўніз і ў адзін міг каля палятухі апынулася.

— Сястрыца, скажы, чаго ты плачаш? — спытала ў яе.

— Як тут не плакаць, вавёрка. Дзікі маю схованку з грыбамі адшукалі. Сойцы з арэхаўкай таксама ніводнага жалуда не пакінулі. Адзін белы снег кругом, але ж яго не ўкусіш.

І зноў пакаціліся з вачэй палятухі горкія слёзы.

— Не бядуйце. Што Бог паслаў, тым і пачастую вас. Усім хопіць, — сказала так вавёрка і тут жа паклікала сойку з арэхаўкай.

Нічога не шкадавала вавёрка для гасцей. І сунічкамі іх частавала, і малінамі з ажынамі, і шыпшынаю, і сушанымі баравікамі, і арэхамі з жалудамі.

Завіруха ўзнялася. Ноч на зямлю апусцілася. Вядома ж: зімовы дзянёк, што камароў насок. А палятуха, сойка і арэхаўка і не думаюць дамоў спяшацца. Сытна ім у вавёркі, весела.

Але на Мацея, калі зіма пацее, скончыліся ў вавёркі сунічкі.

На сараці, калі пайшла зіма да ракі, скончыліся і яе маліны.

А на Рыгора, калі зіма пайшла ў мора, скончыліся ажыны з шыпшынаю.

На Святога Прыска, калі прабіла лёд хвастом пліска, не стала сушаных баравікоў.

А калі Святы Вайцеху выпусціў жаўранка з меху — і арэхі з жалудамі скончыліся.

Але гэта ўжо была не бяда. З Вялікадня птушкі пачалі пець, першы раз зязюлька закукавала.

Тым часам і май наступіў. А, як кажуць: май — і пад кустом рай.

Так і перажылі зіму, дзякуючы шчодрай вавёрцы, палятуха, сойка і арэхаўка.

**Янка Галубовіч**

# Міфы старой Беларусі

**5. Вадзянік**

Гэты нячысцік жыве ў „жывой", чыстай вадзе, якая ніколі не замярзае. Вадзяніка сустрэнем у крыніцах, ля млыноў, у вірах рэк і азёраў, калодзежы. Па знешнім выглядзе ён непрыгожы. Найчасцей паказваецца старым з доўгай барадою, з доўгімі зялёнымі валасамі на галаве, з гладкай бліскучай скурай, расплывістым тварам, азызлым пузам і даўжэзнымі нагамі, на якіх між пальцаў перапонкі. Цела Вадзяніка пакрыта доўгімі валасамі, якія ў сапраўднасці ёсць тонкімі струменьчыкамі. Апынуўшыся на беразе хутка гіне і астаецца па ім толькі пласт водарасцей абцягнуты плеўкай. Калі такі пласт укіне чалавек у ваду, Вадзянік ажывае. Тады ён будзе дапамагаць свайму выратавальніку, будзе заганяць у сетку рыбу або выштурхне з небяспечнага віру. Часам прымае таго чалавека на сваю пасцель, якая знаходзіцца на дне вадаёма. Пасцель Вадзяніка чароўная, мяккая, з тонкай як павуцінне засенню, праз якую відаць жыццё раслін і водных жывёл, гульні русалак.

Часцей за ўсё Вадзянік — шкодны дух. Любы яго занятак — тапіць людзей і мучыць тапельцаў.

Вадзянік цешыцца, калі топяцца маладыя дзяўчаты. Асабліва самагубцы, прыгажуні. Яны робяцца русалкамі і трапляюць пад суровую ўладу нячысціка.

Найгоршыя Вадзянікі, што жывуць без русалак. Яны не прапускаюць ні адной ахвяры, спадзяючыся сустрэць у ёй жанчыну.

Найчасцейшыя ахвяры Вадзяніка тыя, што купаюцца ў свята ці пасля заходу сонца, у час калі вада павінна адпачываць.

У час Купалля Вадзянікі накіроўваюцца да млыноў, дурэюць там, круцяць колы, адкрываюць шлюзы. Перамолатая ў гэту ноч мука мае глыбокае і таямнічае значэнне для беларуса. Хлеб з гэтай мукі, асвячаны ў царкве на працягу года захоўвае сілу. Хопіць з'есці кавалачак такога хлеба, каб чалавек увесь год плаваў і не ўтапіўся.

**Зорка**



*Трэцякласнікі з Новага Корніна з настаўніцамі Нінай Куптэль і Іалантай Грыгарук.*

Фота Ганны Кандрацюк

**Янка Купала**

## Бацькаўшчына

З зямлёй і небам звязвае мяне ніць —
Неразарваная векавечна павуціна:
Зямля мяне галубіць, як вернага сына,
А сонца мне душу не кідае туліць.

Яшчэ ў калысцы я навучыўся з песень сніць
Аб гэтых блізкіх мне, а цесных так, мясцінах:
Што роднай нівы я мільённая часціна,
Што зоркі роднай ў сэрцы мне іскрынка тліць.

Так бацькаўшчыну я здабыў сабе без злосці,
Узрос з яе й чужых з яе не скінуў косці,
Грудзьмі тулюсь к ёй, як да матчыных грудзей.

І калі здзекаецца нада мною хтосьці —
Над Бацькаўшчынай здзекаецца ён маёй,
Калі-ж над ёй — мяне тым крыўдзіць найцяжэй.

*1915 г.*



*Малюнак Томка Дзямянюка з Падрэчан (VI кл. ПШ у Чыжах)*

# Польска-беларуская крыжаванка № 41

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Wianuszek<br>Pieczara | | Czyn | Norka<br>Węch | | |
| | | | | | |
| Nerka<br>Żona | | | | | |
| | | | | | |
| Strach | | Kicz | | Jurek<br>Woda | Chaana |
| | | | Ząb | | Kat |
| Kozak | | | | | |
| | Nuda | | | | |
| Alarm | | | | | |

Адказ на крыжаванку н-р 37: **Вітай, школа!**

Узнагароду, кніжку Міколы Гайдука „Белавежскія быліцы і нябыліцы", выйгралі: **Марцін Мялешка** з Катоўкі, **Юліта Харытанюк** са Старога Корніна і **Пятрусь Янкоўскі** з Бельска-Падляшскага.



Талон „Зоркі" № 41
12.10.1997

# Нашы карані

**CIX. Нязломны ігумен**

Закончыўся чарговы царкоўны год, бо 14 верасня па новаму, а 1 верасня па старому стылю мы ўступілі ў новы царкоўны год. Ён адкрываецца ў Беларускай Праваслаўнай Царкве ўшанаваннем памяці прападобнамучаніка Афанасія ігумена Брэсцкага. Беларускаму святому прысвячаецца дзень 5 верасня па старому стылю, або 18 верасня па новаму.

Нарадзіўся ігумен Афанасій Філіповіч каля 1595 года ў рамесніцкай сям'і ў Брэсце. Вучыўся ў мясцовай брацкай школе, а потым закончыў Віленскую езуіцкую калегію. Навука ў каталіцкай калегіі не пахіснула яго непарушную вернасць Праваслаўю. Сваё самастойнае жыццё пачаў працай як хатні настаўнік па шляхоцкіх дварах Брэстчыны. Відаць, праявіў сябе дасканалым педагогам, калі сам канцлер Вялікага княства Літоўскага Леў Сапега даручыў яму заняцца выхаваннем таямнічага юнака Дзімітрыя. Пасля некалькіх гадоў працы Філіповіч разведаў, што ў асобе хлапца польскі двор рыхтуе чарговага Ілжэдзімітрыя, Самазванца на маскоўскі трон. Гэта моцна ўразіла Філіповіча, ён зрокся весці заняткі. І ў віленскім праваслаўным Свята-Духавым манастыры ў 1627 годзе прыняў манаскі постryг, а праз пяць гадоў быў пасвячаны ў сан іераманаха, і цалкам прысвяціў сябе малітве і бескампраміснаму змаганню супраць праследавання Праваслаўнай Царквы. Ён нёс послух у розных манастырах Беларусі і ўсюды бачыў здзекі і праследаванні уніятамі праваслаўных, іх пакутнае становішча. У 1640 годзе брацця Сімяонаўскага манастыра ў Брэсце выбрала яго сваім ігуменам. Гэта яшчэ болей узмоцніла айца Афанасія ў намаганні дапамагчы Праваслаўнай Царкве. Ён звяртаўся да высокапастаўленых асобаў у дзяржаве, урэшце пайшоў у Маскву і благаў цара пра ўратаванне Праваслаўя ў Рэчы Паспалітай. На жаль, усе гэтыя старанні прыносілі мізэрныя вынікі. Даведзены да адчаю, айцец ігумен рашыўся на выступленне ў 1643 годзе перад Сеймам і каралём, дамагаючыся „каб вера праўдзівая грэцкая была па-сараўднаму замірана (ушанавана), а праклятая унія зніштожана і ў нішто абернута". Да таго пагражаў самому каралю Божым пакараннем, калі той не ўвядзе ў краіне роўнасці ўсіх веравызнанняў. Вядома, такое дзёрзкае выступленне завяло айца ігумена пад стражу, а потым паставіла перад мітрапалічным судом. Суд аднёсся да яго паводзін са зразуменнем, і неўзабаве ігумен Афанасій вярнуўся ў свой манастыр. Аднак не пакінуў змагання супраць праследавання Праваслаўя. За гэта зноў трапіў у турму. Але нават астрожныя сцены не спынілі яго барацьбы: там ён напісаў шэраг твораў, у якіх прадставіў трагічнае становішча Праваслаўя ў краіне, а таксама накіраваў пра тое дзве скаргі каралю. Кароль перадаў нязломнага ігумена ў распараджэнне мітрапаліта кіеўскага Пятра Магілы. У Кіеве, знаходзячыся ў Пячэрскай лаўры, Філіповіч апрацаваў і папоўніў усё ім дагэтуль напісанае ў адну кнігу *Дыярыюш* (інакш *Дзённік*), у гэтым творы вельмі дакладна і вобразна апісаў гаротнае становішча праваслаўных у тадышняй Рэчы Паспалітай, іх змаганне за свае правы, а таксама асабісты пакутны жыццёвы шлях. *Дыярыюш* Філіповіча — гэта адзін з лепшых твораў старажытнай беларускай мемуарнай літаратуры.

Неўзабаве ўспыхнула паўстанне ўкраінскага і беларускага люду пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага. Уладам надарылася зручная нагода пазбыцца нязломнага змагара за Праваслаўе. Яго арыштавалі па абвінавачанні ў дапамозе паўстанцам, хоць не знайшлі на гэта ніякага доказу. Але нягледзячы на тое расстралялі бязвіннага ігумена 5/18 верасня 1648 года на прадмесці Брэста. Нават пэўная смерць не зламала змагара: ён, ужо стоячы над сваёй магілай, праклінаў унію.

Памяць пра нязломнага ігумена беларускі народ захаваў назаўсёды, а Праваслаўная Царква ўвяла яго ў лік Святых Беларускай зямлі.

**Мікалай ГАЙДУК**

# Цудоўнае міфаманства

Чарговы раз Васіль Петручук бліснуў сваімі ведамі пра падзеі пачатку нашага стагоддзя („Цуд над Віслай ці міф?", „Ніва" н-р 39 ад 28.09. г.г.). Чытаючы тую „бразгатню пра цуд над Віслай, чалавек, які крыху пра гэта ведае і не з'яўляецца крывадушнікам, не ведае — смяяцца ці плакаць...". Паводле Васіля Петручука Варшаўская бітва 13—15.08.1920 г., якую палякі назвалі „цудам над Віслай", і ў выніку якой быў разбіты цэлы Заходні фронт Міхаіла Тухачэўскага і амаль 70 тысяч яго салдатаў папала ў польскі палон, з'яўляецца міфам і фальшам. Далей, аднак, Петручук сам пацвярджае той „фальш", пішучы, што палякі затрымалі і адкінулі войскі Тухачэўскага. Без бою? Смяяцца ці плакаць...

Васіль Петручук аспрэчвае яшчэ права польскіх улад адзначаць гэтую гадавіну, паказваючы ім, што важнейшаю была бітва пад Леніна. Варта тут нагадаць нашаму Петручуку, што бітва пад Леніна адбылася пасля бітвы на Курскай дузе, якая канчаткова павярнула ход ваенных падзей у іх фінальным напрамку і вялікага ваеннага значэння яна ўжо не мела. Мела яна затое палітычнае значэнне, бо адбылася перад Тэгеранскай канферэнцыяй, дзе ўжо закладваліся першыя зрубы палітычнага строю пасляваеннай Еўропы. Затое ж Варшаўская бітва 1920 г. мела стратэгічнае значэнне, рашаючае для існавання або незалежнай Польшчы, або некалькіх расейскіх губерняў заміж яе. І нельга тады дзівавацца таму рангу, які гэтай падзеі прыдаюць дэмакратычныя ўлады самастойнай польскай дзяржавы.

Варта яшчэ, не толькі Петручуку, помніць, у якіх абставінах мы знаходзімся. Час ад часу чуваць у нас лозунгі нацыянальных экстрэмістаў, каб беларусы выбіраліся да Лукашэнкі. І калі б палічыць, што пагардлівыя адносіны нашага Петручука да дзяржавы, у якой жывем, з'яўляюцца поглядамі нас усіх, тады тыя экстрэмісты мелі б рацыю. Згадваемы Петручукоў тэкст гэта падліванне масла ў іх агонь.

І яшчэ крыху пра згаданых ў гэным тэксце асобы. „Баявы і разумны", паводле Петручука, Тухачэўскі, які па адукацыі быў спецыялістам па вядзенню баёў, прамантачыў пад Варшавай амаль увесь падпарадкаваны сабе Заходні фронт. Пагнаў ён свае войскі аж пад Торунь, захапіў плацдарм пад Влацлаўкам, беструботна пакінуўшы адкрытым свой левы фланг і ствараючы такім чынам разрыў з Паўднёвым фронтам, дзе тады прабываў Сталін. Сталін сапраўды супрацьўляўся аддачы часткі сваіх сіл на поўнач, на патрэбы без толку расцягнутага суседняга фронту, бо, хаця па адукацыі быў ён спецыялістам па маханню кадзілам і крапілам, меў толк у ваеннай справе і ведаў, што такое аслабленне пагражала ягоным вайскам правалам; Сталінава меркаванне падзяляў і Будзённы. А Пілсудскі, пра якога Петручук піша з нескрыванай пагардай, выдатна выкарыстаў бязладдзе сваіх праціўнікаў, дабіваючыся гістарычнага „цуду над Віслай".

Сёння мода, якой не мінуе і Петручук, усё злое звальваць на Сталіна. Калі б маладога Іосіфа Джугашвілі не абуралі тадышнія сацыяльныя парадкі, не стаў бы ён рэвалюцыянерам, змагаром за іх адмену, праводзячым сваё маладое жыццё ў турмах і ссылках, а вызгодна прапаведаваў бы, што так устаноўлена Богам. Занесены лёсам у вяхі нестабільнай яшчэ дыктатуры, уключыўся ў тамашнюю барацьбу за існаванне, перамог, стабілізаваў уладу і ... прыстасаваўся. І ўсё тое сапсавала яго лепшыя парывы. Будзь на ягоным месцы хто другі — наўрад ці было б інакш. Бо ж, для прыкладу, была хіба адна такая праслаўленая баба, у дзяцінстве сірата, якую сапсавала ўлада над адным толькі Васілём Петручуком.

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# З мінулага маёй сям'і, вёскі, мясцовасці

**Васіль САКОЎСКІ**

***(заканчэнне; пачатак у 18 н-ры за 1996 год)***

Не латвей уводзілася і механізацыя сельскай гаспадаркі. Калі першы раз пачалі жаць снопавязалкай, некаторыя старэйшыя людзі доўга плявалі і гаварылі: „Добра, што не жывуць ужо нашыя дзяды, бо гэта забіла б іх адразу..."

А я лічу, што не забіла б. Тыя ж самыя дзяды-прадзеды нашы мелі ў свой час таксама немалыя клопаты з рознымі тэхнічнымі і гаспадарчымі навінамі, як хаця б замена сахі плугам. Гэта таксама была свайго роду тэхнічная рэвалюцыя і прымалася яна з немалымі цяжкасцямі і не адразу. Наш сучасны пачцівы дзядуля-плужок на пачатку сваёй кар'еры меў таксама як сваіх прыхільнікаў, так і праціўнікаў. Абодва бакі мелі свае важкія аргументы „за" і „супраць". Аргументамі прыхільнікаў плуга было тое, што ім намнога хутчэй і латвей аралася. Плуг добра трымаўся глебы і шырэйшую скібу браў, а саха на баку скакала, зямлі не трымалася, вузенькую і плыткую скібіну брала, якую хутчэй старчом ставіла, як клала. Поле заараное плугам давала аднак спачатку горшыя ўраджаі — і гэта было наймацнейшым аргументам прыхільнікаў сахі. Я думаю, што горшыя ўраджаі спачатку ад плуга былі таму, што плуг араў глыбей і выварочваў яшчэ не выпрацаваную і не ўгноеную глебу. Хутка аднак і ўраджайнасць, і ўсе іншыя вынікі ад прымянення плуга былі куды лепшыя як ад сахі. І нашы няскорыя да навінак продкі замянілі яе на плуг. Відаць, так ужо мусіць быць, што ўсё новае нараджаецца ў болях...

Такой была мая і нашы вёскі.

Вёска наша пераможна перажыла царскі феадалізм і капіталізм, польскую санацыю, савецкі сацыялізм, нямецкі фашызм і народную ўладу. Усе гэтыя годы-нягоды зрабілі нашых людзей больш устойлівымі, загартаванымі.

Ці ўдасца ім выйсці цэла і з сучаснага нашага капіталізму, сказаць цяжка. Ужо цяпер жыве ў вёсцы народу мала і з кожным годам яго ўсё меншае і меншае. Старэйшыя людзі, якіх найболыш у нашай вёсцы, на жаль, адыходзяць, а дзяцей радзіць не вельмі ёсць каму.

Добрых гаспадараў з маладымі наследнікамі амаль зусім няма. Штораз больш паяўляецца пустых, замкнутых хат і зарослых пустазеллем панадворкаў. Яны проста трывожаць і страшаць чалавека.

Такі ж лёс і маёй роднай хаты і панадворка. Яны стаяць як сіроткі гаротныя. Няма ўжо ў нашай вёсцы прозвішчаў Антанюк і Сакоўскі. Паменшала і іншых прозвішчаў. Не чуваць ужо ў вёсцы песень і жартаў, яна павольна ўмірае.

Адплывае ў нябыт наша традыцыйная беларуская вёска са сваёй цікавай і самабытнай культурай, традыцыямі і людзьмі.

Шкада! Вельмі шкада!

*Хаджу-браджу па сцежачках*
*Роднага мне сяла.*
*Тут я калісь радзіўся, рос,*
*Жыла мая сям'я.*

*Тут бацька на руках насіў,*
*Вучыў любіць раллю.*
*І маці ўцірала мне*
*Дзіцячую слязу.*

*— Не плач, сынок мой дарагі, —*
*Любіла паўтараць, —*
*Расці на славу нам — бацькам,*
*Табе нас заступаць.*

*Балюча мне той успамін*
*Кранае ўсю душу,*
*Бо я цяпер ужо не дзіця,*
*Бацькоў не маю я...*

*Прайшлі гады, як ураган,*
*Дарожкі зараслі.*
*Мяне ўжо тут не пазнаюць,*
*Я ім зусім чужы.*

*Жыццё сваю я дань аддаў —*
*Дзяцей пагадаваў.*
*Пачнуць ўжо хутка і мае*
*Дарожкі зарастаць.*

# Як паміраць, дык на Бацькаўшчыне

[5 ☞ працяг]

І весткі пра сябе не пакінула.

Мы з бацькам надалей працавалі на гаспадарцы. Выязджалі таксама на заробак у пушчу. Пасля ўладкаваўся я на працу на мілейчыцкай кафлярні, якая належала яўрэю Горфайну. За запрацаваныя грошы купіў я поле, частку запісаў мне бацька. У шэсць гадоў пасля бежанства (дакладна не памятаю, бо метрыкі шлюбу загінулі) ажаніўся я з Вольгай — дзяўчынай з нашай вёскі. Пабудавалі мы на купленай дзялянцы за вёскай хату.

Згарэла кафлярня Горфайна. Нехта з агнём неакуратна абходзіўся і выклікаў пажар. Я застаўся без працы. На іншую кафлярню не пайшоў, бо не было месца. Пачаў гаспадарыць на сваёй калёні.

У нямецкую вайну я жыў па-даўнейшаму, за вёскай. Знайшоўся сярод аднавяскоўцаў сышчык, які данёс немцам, што мы памагаем партызанам. Немцы загадалі перасяліцца ў Мікулічы. Разабраў я сваю хату і паставіў яе ў вёсцы. Пасля заканчэння вайны зноў прыйшлося перавозіцца на сваю сядзібу.

На кафлярні ў Горфайна, я працаваў каля дваццаці гадоў. Для атрымання пенсіі не хапала мне стажу працы і я пайшоў працаваць у кляшчэлеўскі ПОМ апальшчыкам. Адтуль і атрымліваю зараз пенсію.

У нас было трое дзетак. Сын і дзве дачкі. Адна выйшла замуж у Рагачы, другая — у Чаромху. Там купілі з мужам хату. У 1978 годзе я прадаў сваю хату ў Мікулічах, зямлю перапісаў на сына, а сам пераехаў да дачкі ў Чаромху. Зараз пры ёй дажываю. У 1992 годзе памерла жонка. У мяне восем унукаў і шэсць праўнукаў, якім неадноймчы расказваю пра даўнейшыя гады і сваю долю.

**Запісаў Уладзімір СІДАРУК**

Якія мы людзі

# Бабуля

З вакна маёй кухні я штодзень бачу дзевяцігадовага хлапчука, якога бацькі выносяць на руках і садзяць на лаўку. Хлопчык гэты хворы, і бацькі выносяць яго на сонейка, каб крыху пагрэўся ды глытнуў вітаміну „Д”. Сядзяць ля яго і пільнуюць, каб не зваліўся з лаўкі.

Усе жыхары блёка ўжо прывыклі да яго брыдоты і зусім не заўважаюць, што ў хлопца завялікая, нейкая трохвугольная галава, задоўгія рукі, а ногі падкурчаныя і расшыраныя, і выглядае, што хлопец сядзіць па-турэцку. У апошні час яго ножкі пачалі пакрываецца адгінацца, але лётаюць у розныя бакі, быццам бы былі яму чужыя.

Некаторыя суседзі, сядаючы на лаўку, каб пагутарыць з бацькам хлопца, вітаюцца з малым, а ён ахвотна ўкладае сваю кволую ручку ў вялікую мужчынскую руку. Бяда вось толькі, што ў школу не бяруць, ды нават і дахаты, як сцвердзіла камісія, настаўніца да яго не прыйдзе: галоўка занадта слабая.

Каліcь малодшы, шасцігадовы сын гэтых людзей узлез быў на гараж, дык бацька не пасаромеўся пры ўсіх адлупцаваць хлопца. Зараз жа ўмяшаліся „абаронцы”: як можна біць дзіця! А што, не вытрымаў бацька, мо вы б хацелі, каб я другога інваліда гадаваў?! Аднаго ўжо маю... Людзі адразу замоўклі, зразумеўшы недарэчнасць сваіх заўваг.

Можна сабе ўявіць, што перажылі бацькі хворага дзіцяці і што давядзецца ім яшчэ перажыць. Лекары сказалі: да васемнаццаці гадоў дзіця напэўна дажыве, а можа жыць і да трыццаці... Бацькі надта шкадуюць малога і даюць яму больш цяпла, чым іншым дзецям. Глянуць толькі, як беражліва нясе яго на руках бацька, як туліць да сябе яго кволую, усю нейкую абвіслую постаць. Ці сорамна яму, што мусіць гадаваць такога сына? Не, балючча, што менавіта на іх Бог саслаў такое няшчасце.

А ці ж кожны гэта зразумее... Не хочуць яны спачування — хочуць адно акцэптацыі. Не прагнуць яны ні багацця, ні роскашы, не хочуць нават прыгажосці. Зычылі б толькі аднаго — каб іх дзіця было здаровае. Дзіўлюся, сказала аднойчы маці дзіцяці, як можаце вы цешыцца, бавіцца, як можаце быць шчаслівыя. Шчасце для мяне было б тады, калі б усе мае дзеці былі нармальныя...

* * *

Робячы катлеты ля кухоннага стала, я незнарок глянула праз вакно і ўбачыла, што ў гэты цёплы асенні дзень хворага хлопчыка ўжо вынеслі на сонца. Сядзеў на лаўцы ў сваёй звычайнай позе, а побач з ім сёння была бабуля, якая прыехала да іх у госці з вёскі.

Бедныя людзі, падумалася мне, усе яны стаяць каля гэтага малога ды трассуцца над ім, быццам над нейкім крышталем. Мне ўявілася, колькі слёз выплыла гэта бабуля з-за гэтага хлопца, колькі бяссонных начэй пракаратала яна, дапамагаючы дачцэ справіцца з яе жыццём. Не давядзі Божа такога няшчасця! А што ж так моцна рэагуе, як не сэрца маці, бабулі...

Праз вакно я бачыла, як на далоні, тую лаўку і бабулю з хлопцам. Эх, быў бы ён здаровы, дык узяла б яна хлопца на шпацыр у парк. А мо ён ехаў бы на ровары, а яна б ішла побач. Або забрала б хлопца на вёску, там лазіў бы ён па дрэвах, знімаў пахучыя яблыкі, слівы сваёй бабулі. А старая б хвалілася сваім суседкам: во які ўнучак спрытны, а ў школе як вучыцца! Можна сказаць, найлепшы. І людзі, суседзі дзвіліся б, што ў бабулі такі ўнук. А так... Пэўна, сэрца бабулі з жалю разрываецца, бо хто ж так толькі можа кахаць унукаў, як не бабуля... Вядома, апошняе каханне — яно наймацнейшае, а калі ўзяць пад увагу, што ўнучак хворанькі...

Я спахапілася, што занадта моцна вымесіла меленыя катлеты. На гамбургеры мяса было б ужо сапсаванае! Там трэба мясіць хутка, каб у мясе заставалася паветра і гамбургеры былі пульхныя. І ўжо хацела я ісці мыць рукі, як лаўка ізноў прыцягнула маю ўвагу.

Хлопчык (відаць, ён вельмі цешыўся, што да яго прыехала бабуля) падняў сваю даўжэзную, быццам у малпкі, правую ручку і пачаў ёю гладзіць бабулю. Гладзіў і гладзіў яе па карку, па плячах, пакуль бабуля не схапіла яго руку і адкінула яе назад на хлопца.

А ён зусім і не пагневаўся на бабулю. Пачаў яе гладзіць ізноў па плячах. Яшчэ больш пяшчотна, чым раней. На яго твары паявілася кволая ўсмешка. Ну, не! Бабуля знервавалася. Сядзіш, дык сядзі, маўляў. Яна ўскочыла з месца, папраівіла сукенку і перасела на другі канец лаўкі. Відаць было, што ўсё ў яе душы кіпела.

А я не разумела, што гэта дзеецца. Ці ёй было праціўна, што такі недарэчны малыш гладзіць яе, ці было сорамна перад людзьмі за тое, што яе ўнук ёсць такі, а не іншы.

Мінут пяць нестарая яшчэ бабуля вытрымала на тым месцы, але нешта ёй, бадай, усё ж карцела. А мо пабаялася, што скажуць людзі: палова вокан блёка выходзіла на гэту лаўку.

Бабуля ўстала і падышла ўсё ж да хлопца. Відаць, загаварыла сумленне, падумала я. А яна схапіла правую ножку дзіцяці і адкінула яе налева, тады схапіла левую ножку і адкінула ў правы бок. Пасля ўзяла малога пад пахі, падняла ўверх і грукнула ім з цэлай сілы аб лаўку.

Я думала, што яна паламала яму хрыбет, але хлапчук не плакаў. Сядзеў, як і раней, быццам мармуровая статуэтка, з незразумелай усмешкай на твары.

У мяне з вачэй паліліся слёзы.

**Ада Чачуга**

Гутаркі ў дарозе

# Да чаго гэта дайшло?

У пачакальні ПКС сядзела крыху людзей. На вуліцы было сонечна, але нікому чамусьці не хацелася выходзіць на двор. Кепска паставілі паветкі, казалі, сонца слепіць у вочы, як на полі спячэшся. А тут, вось, у цянёчку, досыць прыемна.

— Бачыце, як гэта ёсць, — азвалася маленькая гарбаценькая бабулька, — яйкі танныя, і то ледзь прадасі. Што з вёскі, то ўсё таннее. Да чаго гэта дайшло — за кілаграм яек не купіш столькі ж селядцоў.

— А каго ж трэба душыць, як не мужыка! Таму і маладыя не хочуць жыць у вёсцы. Хутчэй будзе ў чужой маленькай хатачцы сядзець і тонка пашмараваны маргарынам хлеб есці, — паківаў галавою мужчына ў гадах.

— Ай божачкі, божачкі, — уздыхнулі бабы. — Як цяпер няма нідзе праўды ні справядлівасці! Цяжка жывецца. Мусіць прыйшлі тыя часы, што старыя прадказвалі...

— А моладзь цяпер зусім да нічога, — далучылася цётка ў сінім касцюме. — Ідуць у нейкія секты. Найгоршыя тыя сатаністы. Кары на іх няма. Месца на іх няма ні ў турме, ні ў *папраўчаку*...

— Я, ведаеце, — уключыўся маўклівы дагэтуль лысы мужчына, — паехаў быў у Беласток да сына. Завёз што меў, пагасціваў і ішоў пехатою на прыпынак ПКС. На тратуары пад дрэвам стаяла чатырох маладзёнаў. Аб нечым гаварылі, мо спрачаліся, бо ўсе вымахвалі рукамі. Калі я з імі зраўняўся, адзін з іх адлучыўся ад кампаніі і сказаў: „Дарогу мы ведаем”. Тады найвышэйшы з юнакоў як не скочыць на яго, як не пачне даваць выспяткі ў галаву і жывот! А той пакрыўджаны худзенькі такі, на дзве галавы ад таго волата ніжэйшы, ніяк яму не абараніцца. Упаў адразу. Тады той бандыт падняў яго і давай лупіць кулакамі куды папала. Хлопец ізноў упаў на калені, а калі той яго пусціў, упаў ніц. Людзі ішлі, але ніхто не затрымаўся. І мяне як укапала. Ведаў я, што не магу памагчы беднаму, то ішоў памаленьку. Ішоў і азіраўся. Ляжачы прабаваў устаць, але не змог. А тыя трох, што сабе раней размаўлялі, працягвалі гутарку, быццам нічога і не сталася. Ні паліцыі, ні гарадское стражы не было паблізу. Я паплёўся на прыпынак. Што з таго, думаў, што я пазваню на паліцыю ці па доктара. Пачнуць пытацца, а я сам адзін. А тых вось колькі! Іх пусцяць, а яны мяне зловяць і зробяць тое ж, што і з гэтым бедалагам. І ніхто не ўступіўся б за мною, праўда ці не? А яшчэ даведаліся б, дзе жыве мой сын з дзецьмі...

— Напэўна, было б так, — патакнулі спадарожнікі. — Такія, як яны, маюць час на нячыстыя справы.

— Бач ты, у белы дзень ні Бога, ні людзей не баяцца! — усплеснула далонямі бабулька.

— Каб таму бандыту рукі-ногі павысыхалі! — хваляваўся лысы дзядзька. — Таму беднаму, калі чаго не адбілі адразу, то з часам выйдзе яшчэ не адно.

— Вось часы насталі! Людзі, замест гаварыць, кулакамі размахваюць. Ідзеш, і не ведаеш, куды дойдзеш, — уключылася я. — Не можам, тым больш, і на іншых разлічваць. Не ведаеш, хто прыяцель, хто — вораг.

**Аўрора**

# Як у Вальшынцы жытка дажыналі...

*(Быль)*

Надвор'е стаяла цудоўнае. Якраз на добрае жніво — жытні колас наліты, сухі, абвеяны цёплым ветрам. Яшчэ дзень-два — і пасыплецца долу. А калі дасць дождж?! І так Бог трымае сонца, бы шкадуе працы земляроба. Касіць трэба! А камбайна ніяк не дастаць. Кожны выглядае машыну. Да лягчэйшай працы прывыклі вяскоўцы, кажа Анеля Гусіноўская, удава, якая яшчэ гаспадарыць, з Божай і суседскай дапамогай. Але колькі ўсё гэта каштуе! Калі б не дзеці, што ў горад іх павысылала, то не мела б чым аплаціць за паслугі. Можна было б на каго перапісаць зямлю, самой ісці на пенсію, ды зямля дзецям непатрэбная. Грош на пенсіі невялікі, але адной хапіла б. Гарод сабе пакінула б, то і ў места мелі б што сабе ўзяць, якую капусту, гуркі, кабачкі... А цяпер то ўсё думай муці, куды ўсё прадаці. Але жыць якасьці трэба, рабіць, бо без работы — адны сухоты.

Паехала Анеля ў гміннае мястэчка, прасіцца камбайна. Каму як каму, але ж удаве трэба неяк дапамагчы. А ў гміне тры *жандовыя* камбайны, адзін на амін папсаваўся, другі прастойвае ў майстэрні кожны другі дзень, трэці ледзь рухаецца на палетках. Але дыспетчарка, нейкая там сваячка, дзесятая вада на кісялі, можа, гляне прыхільна? Што ёй сказаць, каб назаўтра той камбайн ехаў у Вальшынку?.. А тая паненка, — цяпер то ў гміне найбольшая ўлада, калі ты ў жніво пры машынах — у нос цётцы засмяялася: няма ніякай мовы! Анелі крыўдна, да таго ж такі тон у дзеўкі, быццам прасілі ў яе невядома чаго! Забылася, як па валачобнае прыязджала? Трэснула пані Анеля дзвярыма, папляласся на аўтобусны прыпынак. Там на іншы аўтобус чакала Ганна, ейная сваячка з-за рэчкі.

Згаварыліся: прыедзе з дапамогай камбайн з асценнае гміны. Ратаваць трэба плён! Вядома, будзе гэта каштаваць столькі, колькі плацціца прыватным, да таго пляшка (у кішэнь) і добры абед. І начлег, бо ж не будзе гнаць камбайна Федзя Зарэчанскі за Нарву. І плата адразу, без ніякіх ільготаў на сваяцтва гледзячы ці што іншае. І каб хлопца не пакрыўдзілі, бо ў колісьні час вёска Вальшынка на „Дзікім Захадзе” славілася як нажоўніцкая. Ну, цяпер у нас то жулікаў няма, кажа Анеля, рэзаць няма каго, але абяцала, што парадак будзе, і не будзе крыўды нікому.

Вальшынка радасна вылегла на вуліцу, убачыўшы, як сунецца па вуліцы зарэчанскі камбайн. Каб быў парадак, зрабілі спісак патрабуючых зжаць іхнiе палетка. Ано каб не папсаваўся!  маліліся дзядзькі і цёткі, паглядаючы на неба. І хітра назначылі дзяжурствы, пільнаваць камбайнера, каб яго не сцібрыў хто з суседняй вёскі.

Камбайн працаваў спраўна, спачатку на Анеліным полі. Пасля абеду пачаў за хваінку, на палетка Сцяпана Брэцкага. Гудзеў, гудзеў, ды раптам сціх. Пабеглі людзі за хваінку — камбайн стаіць, камбайнера няма! Пачакалі хвілю — можа, пайшоў за патрэбай у кусты, не будзеш жа трывожыць чалавека. А пасля пабеглі па хваінцы — нідзе Федзі не было. Няйначай *кіднапінг* у белы дзень!

Укралі камбайнера! Пэўна, з суседняй вёскі! Але чаму камбайн пакінулі? Тыц-мыц, паперлі вальшынкаўцы ў Грабінку. А і там ні слыху ні дыху ад Федзі. Аж сорамна распытваць, бо не ўпільнавалі. Хоць ты сядзь ды плач.

— А дзе ж наша Манюля? — ахнула Косцікава Зінка, што На Краю Вальшынкі жыве. — Мела прапалоць бульбу, зелля нарваць свінням, а, гадаўка, недзе прапала!

Манюля, адзіная дачка Косцікавых, не зусім ім, кажуць, удалася, не было чаго высылаць яе ў горад вучыцца. Ну, не зусім слабая на галаву, ае крыху разяваватая. Не скажаш, не зробіць, але калі за што возьмецца, то і пашые, і пірог спячэ, і пасее, і збярэ. То ў вёсцы засталася, бацькам дапамагаць. На аскому сараку кавалераў. Але неяк на нікога не глядзела, пэўна, смяяліся, каралевіча нейкага выглядала, хоць самой ужо аж дваццаць пяць. Калісь такіх старымі дзеўкамі прызывалі.

Ну, усё ж, каралевіч трапіўся! На радасць Манюлі, і ўсяе вёскі. Убачыла Манюля Зарэчанскага Федзю, паглядзеў Федзя на Манюлю, ды забылі хто пра зелле для свіней, хто пра камбайн...

Скасіў Федзя ўсе вальшынскія палоскі. А ў Зарэччы скрыгічуць цяпер зубамі: страцілі камбайн! Але Федзевы бацькі рады, унукаў чакаюць. Шкада толькі, што тыя будуць жыць за Нарваю...

**Міра Лукша**

# Дажынкі ў Пасынках

Многа людзей сышлося ў нашу царкву 14 верасня з нагоды дажынак. Прыехалі таксама і гмінныя ўлады з войтам Бельскай гміны Юрыем Ігнацюком. Прывіталі іх хлебам і соллю гаспадары дажынак Андрэй Ліпскі і Барбара Крукоўская.

Пасля ўрачыстасцей ў царкве ўсе з дажынкавымі вянкамі пайшлі пад стражацкае дэпо, дзе адбыўся дажынкавы фэст, якому спадарожнічаў невялікі паказ сельскагаспадарчых машын. Першымі выступілі дзеці з Бельска-Падляшскага, толькі што сваю праграму чамусьці адспявалі яны на ўкраінскай мове. Прыемна было паслухаць іх песень і паглядзець жніўную п'есу. Потым захапляў гледачоў сваім выступленнем гуртог „Хутор" з Гданьска. Гэтых сем маладых хлопцаў, апранутых у народныя ўкраінскія строі і з народнымі інструментамі так умелі заваражыць сваёй ігрой і спевам публіку, што ўсе слухалі разявіўшы раты. Выступіў таксама і дубяжынскі ўкраінскі хор і жанчыны з Крыўца. Жамчужынай дажынак была „Срібна терція" з горада Роўна, што на Украіне. Усё гэта і прыемна, і прыгожа адбывалася, кранала душу, але адно мяне непакоіць: дзе ж падзеліся нашы беларусы. Гэта ж усё адбывалася ў беларускай вёсцы! Чаму не выступілі „Васілёчкі", „Дубіны" ці „Хлопцы-рыбалоўцы"? Можа іх ужо няма?

Чаму ж украінскія дзеячы ўмеюць так цаніць, так развіваць сваю культуру, а куды ж дзеліся нашы дзеячы? Гэтае ж ўсё дзеецца ў нашым асяроддзі і на нашых вачах беларусы становяцца кімсьці другім.

Найвышэйшы час над гэтым усім задумацца і больш заняцца сваім асяроддзем, чым палітыкай на Беларусі. Калі так далей пойдзе, то не будзе каму чытаць нашу „Ніву", якую, як я памятаю сама, людзі па вёсках шанавалі як нешта святое, а цяпер становіцца яна нам чужой. Забываемся, што мы — беларусы! Цікава, калі будзем мяняць пашпарты, якую ж нацыянальнасць будуць устаўляць нашы беларусы ў рубрыцы „нацыянальнасць"?

**Мар'я Бесяда**

# Эх, калі б...

Калі чалавек паслухае і пабачыць тэлеперадачу ОРТ „Играй гармонь", калі паслухае расейскія, беларускія і ўкраінскія песні і пагладзіць на танцавальныя калектывы гэтых народаў, дык робіцца цяжка на сэрцы: „Чаму, менавіта, не славяне адкрылі Амерыку?"

Я ўжо баюся выказваць сваю думку, хаця да гэтага заклікае сп. Яўген Міранoвіч, бо зараз усе паабражаюцца, нягледзячы на тое, што ў сваіх выказваннях нікога персанальна не кранаю.

Амерыку, на няшчасце індзейцаў, адкрыў нейкі Хрыстафор Калумб, які мо і не хацеў, але садзейнічаў сваім адкрыццём нанясенню крывавага гора карэнным жыхарам амерыканскага кантынента; там наехала каталіцкіх чужынцаў, якія ад імя Хрыста агнём і мячом пачалі змушаць туземцаў прыняць каталіцкае веравызнанне.

Але, калі б Амерыку адкрылі праваслаўныя славяне, дык па сваёй натуры індзейцаў — карэнных жыхароў гэтай зямлі — навучылі б сваіх песняў, танцаў, абычаяў, мовы і культуры наогул. А праваслаўная Царква прыгажосцю сваіх абрадаў, храмаў і песнапенняў нібы магніт прыцягнула б без бою ўсіх іншаверцаў на праваслаўную веру. Такім чынам Амерыка не перажывала б войнаў, гвалтаў ды „дабрадзействаў" каталіцызму, якія падрыхтаваў Рым.

Гэтая думка наведвае мяне заўсёды тады, калі чую нашы песні і танцы, а таксама тады, калі нечакана ў тэлебачанні або ў радыёпрыёмніку пабачу і пачую разрываючы грудзі і галаву крык ды канвульсіўныя танцы чэрцяў з пекла. Калі гэта называецца культура, то няхай мяне Гасподзь сцэражэ ад такой культуры. Нават з гэтае аднае прычыны Амерыку павінны былі адкрыць не тыя, хто адкрыў. Але відавочна і іх Бог пакараў за нешта. Шкада, што разам з імі і мы мусім пераносіць геену, якая, на жаль, ужо распаўзлася па ўсім свеце. Але згіне беззваротна, бо гэта музыка наркаманаў, а за наркаманію ўжо ўзяліся.

Хтосьці зараз мне паставіць у закід вось такі аргумент: „А чаму гэтую музыку, якую ты завеш разбураючай грудзі і нервовую сістэму, любіць так многа людзей?" А я адкажу: „Таму, што тыя людзі таксама наркаманы і хутка пападаюць у транс. А гэта стан псіхічны такі, які даводзіць да шалу і іменна тады здараюцца трагедыі".

**Васіль Петручук**

# А парадак мусіць...

Як штогод так і зараз раённыя фінаддзелы заканчваюць разлічваць падаткаплацельшчыкаў з падаходнага падатку за мінулы год. Тыя, хто пасылаў свае „піты", асабіста, атрымоўваюць зварот лішку заплачанага падатку або даплачваюць налічаныя казной сумы.

Неяк трапляецца, што фінансаваму аддзелу трэба звярнуць вельмі малыя грошы. Нядаўна быў я сведкам як чаромхаўскі пісьманосец выплачваў жыхару пасёлка паштовы перавод на... дзесяць грошаў.

— Ці гэта не смешна, — гаварыў падаткаплацельшчык пісьманосцу, — паштовы перавод больш каштуе дзяржаву, чым звернутая мне сума. Лепш было б, каб фінансавыя ўстановы больш пільнавалі прыватных прадпрымальнікаў, а не паасобных грамадзян. Менш было б бюракратыі, а карысць дзяржаве — большая.

Як сказала мне Ніна Л., працаўніца чарамхоўскай пошты, такіх пераводаў трапляецца больш. Відаць, чыноўнікі Бельскага фінаддзела працуюць паводле народнай прымаўкі: „Хай уся вёска згарыць, але парадак мусіць быць".

**(ус)**

# У чым справа?

Маё становішча на адгалоску Аляксандра Вярбіцкага („Ніва" н-р 38 ад 21 верасня 1997 г.) „Аб чым ведае ўвесь свет" выказана не будзе, пакуль Рэдакцыя не надрукуе цэласці майго матэрыялу пз. „Актуальны погляд на мінулае". Я думаю, што гэта зробіць, бо чытачам „Нівы" трэба ведаць у чым справа.

**В. Петручук**

PS. Фрагмент маёй цэласці быў надрукаваны ў 36 нумары „Нівы".

# Юбілей гарадскіх земляробаў

У гэтым годзе палетак садова-агародных участкаў „Бельская зямля", што пры вуліцы Войска Польскага, адзначаў 15-годдзе свайго існавання. Палетак гэты заснаваў пакойны ўжо Іван Ваўжыняк, які быў і яго першым старшынёю. На 21 гектары зямлі, якія раней абрабляў бельскі ПГР, былі выдзелены 460 участкаў, праведзены дарогі, вада, зроблена агароджа. У 1992 г. прыбыло яшчэ 11 гектараў. Цяпер старшынёю Зыгмунт Чэркас. Сказаў ён:

— Людзі маюць свае домікі і ў вольныя дні цэлымі сем'ямі адпачываюць і гасцююць адны другіх. Уласнікамі ўчасткаў з'яўляюцца пераважна старэйшыя людзі, якія часта і жывуць там з вясны да восені. У апошнім часе ўчасткамі пачынаюць таксама цікавіцца і маладыя, бо і гародніна экалагічная, і прадаць нешта можна на рынку. З нагоды свайго юбілею, які супаў яшчэ і са стагоддзем польскага ўчасткавага руху, 23 жніўня быў арганізаваны пікнік, на які з'явілася многа людзей. Былі адзнакі, дыпломы і рэчавыя ўзнагароды.

**Андрэй Гаўрылюк**

Адгалоскі

# Пра пачаткі Фестывалю

З цікавасцю прачытаў я артыкул Ады Чачугі „Трыццаціпяцігоддзе" („Ніва", н-р 38 ад 21 верасня 1997 г.). 35-гадовы юбілей дырэктара Казімежа Дэркоўскага гэта таксама многа гадоў маёй працы і супрацоўніцтва з ім.

З гэтага артыкула я таксама даведаўся, якія паводле сп. Зыгмунта Цясельскага былі пачаткі гайнаўскага Фестывалю царкоўнай музыкі. Наколькі ён не першы раз публічна выказваецца на гэтую тэму, тады і я хачу аднесціся да слоў вядомага і шанаванага беластоцкага этнографа.

Праўдай ёсць, што калі (бадай у 1981 годзе) пан Цясельскі стаў дырэктарам Ваяводскага аддзела культуры ў Беластоку, я звярнуўся да яго за дапамогай у арганізацыі Фестывалю. Праўдай таксама ёсць і тое, што ён запрапанаваў змяніць загаловак, сказаўшы: „Po co Panu Festiwal — niech Pan zrobi np. Dni Muzyki Cerkiewnej". Далей праўдай ёсць, што калі „адлігла" крыху ваеннае становішча, ён на загадзе „палкоўнікаў" прапануючы спісак культурных мерапрыемстваў уключыў у яго Дні царкоўнай музыкі. На маё пытанне якое становішча яны занялі, адказаў, што „nie powiedzieli nie" Далей сп. Цясельскі, кіруючы Аддзелам культуры, згадзіўся, каб Аддзел стаў суарганізатарам гэтага мерапрыемства і заплаціў не толькі за канцэрт хору а. Юрыя Шурбака, але і за праект і друк плаката, буклета, а нават за працу журы.

Усё гэта праўда і не раз выказваў я сп. Цясельскаму сваю ўдзячнасць.

Няпраўдай аднак ёсць тое, што сп. Цясельскі падказаў мне ідэю арганізацыі Фестывалю. Ідэі такой у 1981 годзе не трэба было падказваць, яна ўжо даўно была. Прынамсі ад 1979 года, калі я пачынаў працу ў Гайнаўскім доме культуры. Упершыню ў Беластоку я аб ёй гаварыў (дарэчы ў тым самым кабінеце) папярэдніку Цясельскага, пану Збігневу Кыцi, калі ў 1979 годзе гайнаўскія ўлады завезлі мяне да яго ў характары будучага дырэктара Рабочага цэнтра культуры ў Гайнаўцы. Праўда, яго адносіны былі даволі стрыманыя, бо сказаў ён мне: „Niech się Pan zastanowi czy warto".

Спадару Цясельскаму здаецца таксама, што гэта ён запрасіў хор а. Юрыя Шурбака. Хору не трэба было запрашаць. Хор „пераканаўча" запрапанаваў сам а. Юры Шурбак, з якім, як і з а. Міхаламм Негярэвічам, мы ўкладалі 19 і 20 кастрычніка 1981 г. рэгламент і канцэпцыю І Дзён царкоўнай музыкі. Фармальнае запрашэнне ў Варшаўскую оперу пісаў ужо я (дарэчы, тройчы: 26 кастрычніка 1981 г. — запрашаў, 4 студзеня 1982 г. — адклікаў, і зноў запрашаў 25 сакавіка 1982 г.).

Гэта было б усё аб пачатках арганізацыі гайнаўскага Фестывалю царкоўнай музыкі. Усё, што мне ўдалося „аднавіць" паводле маіх запіскаў, архіва і памяці.

**Мікалай Бушко**

# Упершыню ў Польшчы

Вялікі чырвоны „Ікарус" спыніўся 7 верасня ў Орлі на занядбаным пляцы насупраць старажытнай сінагогі. На аўтобусе прыехала 36 беларускіх спевакоў і танцораў, якія састаўляюць калектыў „Свяціца". Артыстаў, якія збіраліся выходзіць на сцэну, бянтэжыла адсутнасць публікі. „Чаго мы сюды прыехалі?" — думалі госці з Беларусі.

Пагутарыць са мною згадзіўся Валеры Голубеў, які расказаў пра свой калектыў:

— Калектыў працуе ў Расонах Віцебскай вобласці. У яго рэпертуары — беларускія народныя песні. Выступалі мы ў Цвяры, на фестывалі „Славянскі базар" у Віцебску і ў многіх меншых гарадах і мястэчках. Калектыў наш малады, яму пад пяць гадоў. Кіруе калектывам Валянціна Уласава. У калектыве займаюцца людзі шматлікіх прафесій: працаўнікі гандлю, культуры, фінансісты, пажарнікі і, вядома, музыканты. А граем мы на баянах, цымбалах і скрыпках. У Польшчу прыехалі мы ўпершыню і выступім з канцэртамі ў Орлі і Бельску-Падляшскім. А праграма ў нас вельмі цікавая. Яе трэба абавязкова паглядзець.

„Свяціца", нягледзячы на дрэнныя ўмовы (бетонная пляцоўка, адсутнасць гукаўзмацняльнай апаратуры і нешматлікая публіка), выступіла цудоўна. Цэлую гадзіну ліліся са сцэны мілагучныя беларускія песні, а на сцэне віравалі танцоры ў казачна каляровых уборах. Калектыў, хаця і разгублены першай замежнай паездкай, паказаў вяршыню мастацтва. Такую жамчужыну БГКТ павінна яшчэ не раз запрашаць да нас, але ўжо не дзеля мастацкага афармлення палітычных кампаній. „Свяціца" спадабаецца публіцы і ў гарадскіх канцэртных залах.

**Міхал Мінцэвіч**

# Парнасік

* * *

Хацеў бы я быць
лісцем на дубе ў Грабіне
ды ўпасці з дуба
змяніць колер
схавацца
сярод іншага лісця

няхай мяне шукае
рука мастака

* * *

Кажуць што
выпадкі
ходзяць па людзях

сустрэў я адзін
нават з ім размаўляў
дваццаць хвілін

**Андрэй Гаўрылюк**

## Бягуць гады

Як хуценька бяжыць час
Не паспеў я аглянуцца,
Была вясна, лета ўцякло,
Зноў да зімы рыхтуйся.
Так хуценька нам час ляціць
І гады так уцякаюць.
Яшчэ я добра не пажыў,
А ўжо шэсцьдзесят мінае.
Хацеў бы яшчэ штось зрабіць,
Але сіл ужо не хапае.
Каб добра людзі ўсе жылі,
Радасць была б як у раю.
Забылі б бяду ды хлусню,
Ніколі б іх не спазналі,
Адзін другому ранენька
Ветліва добры дзень казалі б.
І можа шчасце на душы
Для кожнага спрыяла б,
Усе весяліліся б жыццём
Не мелі б кепскіх планаў.
І можа тады добры Бог
Усё адвярнуў бы ў свеце,
Не было б войнаў і зімы,
Усе жылі б мы ў леце.
Мары такія ў мяне,
Так я сабе падумаў...
На ўсё воля Божая ёсць
І ёсць ад Бога сіла.

**Мікалай Лук'янюк**

## Трывога

Кажуць: як трывога — да Бога;
А няма трывогі — чужыя нам
Божыя парогі.
І гэта точна так,
Чужы мне, ці блізкі, сваяк!
Карані свае падрываем,
Чужою мовай усё заліваем.
І нібы веры праваслаўнай —
Здаецца — магутнай і слаўнай;
Да яе прызнаемся,
Але куды мы пнемся?
У састаў чужы,
Каб быць чалавекам другім.
Мовы роднай цураемся
І ў грахах не каемся.
І што тут гаварыць?
Трывогу трэба біць!
Для нас Лукашэнка герой,
Бо з родным вядзе бой.
Цікава: каб пажылі ў яго Беларусі,
Дзе спяваюць: мы з роднаю Руссю...
Для іх мы амерыканцы-багацеі,
Хаця і ў нас не найлепшыя падзеі.
Ніхто нас не пашкадуе
І не паратуе:
Ні амерыканец, немец, паляк —
Хаця мы лічым — ён найлепшы сваяк.
Хаця адракаемся роднай культуры,
Не мінуюць нас буры
І хутка станем людзьмі другога сорта
І пашлюць нас да д'ябла і чорта.
Свет лічыцца з адважнымі
І да роднай спадчыны разважнымі.
Хто не пахіліцца, а выстаіць,
Ён, як герой, будзе жыць!

**Мікалай Панфілюк**

# Люксчыст

На беластоцкай смяцярцы над лабавой шыбай на ўсю шырыню — акуратная наклейка „British Airwais”. За рулём — не менш талкова выглядаючы хлапец, хоць не ў шыкоўным касцюме, але ж і не ў фуфайцы. Дарэчы, на прыбіранні горада можна зусім някепска зарабіць, і зусім нікому не сорамна і не гідка вазіць чыйсьці бруд. Хоць у нас, здаецца, гэта не так выгадна, як на Захадзе, дзе з якоейсьці гадзючнасці ўмеюць гэтыя сучасныя алхімікі эканомікі зрабіць золата... Але я не пра гэта, не пра тую руплівую і не вельмі прыемную работу ачышчальнікаў свету, якую хто рэкламуе, а хто не, а якая ёсць патрэбнай і неабходнай, каб свет не закапаўся ў гаўне і не задушыўся. Я нават не пра гумар смецяроў, якіх ідэя з рэкламаваннем замежнае фірмы выклікала ў мяне сапраўды добры настрой, ды не толькі ў мяне, а ва ўсіх, хто глядзіць на вуліцу вышэй падэшваў і не імчыць, пералічваючы толькі штосьці ў мазгах. Я пра іншае смецце. Бо не „фірма” сведчыць пра якасць працы, прыкладна, смецяроў з адной з беластоцкіх ці іншых прадпрыемстваў. Бо назва яе, скажам, каб не рэкламаваць задарма, — „Чысьцёх”, „Чысцюля”, „Чыстаплот” ці „Мяцёл” зусім не лепшая ад „Чысталюкса”, „Люксчыста” ці „Чыст-супермена”. А „Чыстабойс” — ці такое не гучыць клёва?

Глядзіш на тыя ўсе рэкламы, шыльды, наклейкі фірмаў, і забываешся, што жывеш на радзіме! Што тут гаварыць пра шыльды з назвамі вуліц па-беларуску! Мы ўжо не такое сцярпелі, і не адно такое перанясём! Але як адчуваць сябе можа паляк, які паважае сваю мову! Тут жа і палякі ў дэфензіве! Толькі і тое ім засталося, што назвы вуліц, а таблічкі і тыя рабіла фірма ці не з Вроцлава, сама з вельмі „еўрапейскім” назовам, быццам беластачане непісьменныя былі (а прынамсі за такіх палічыла іх Гарадская рада, калі плаціць захацела чужым). А на гэтых вуліцах — жулікі ў амерыканскіх бейсболавых кепках, з бейсболавымі дубінкамі, у майках усіх у замежных літарах, выкармленыя Макдональдам і адукаваныя „амерыканскім” тэлебачаннем, розныя абарыгены з „ваколіц вуліцы Млыновай” і бара „Пяст” на Баярах і аматары disco. Фшыстко ест окей! Галоўнае, што настрой у нас усіх — абсалютна еўрапейскі. Ідзе ўсё ў добрым напрамку, бо ў глабальнай вёсцы ў выданні РП — найважнейшае — *Moskal już nie stoi*!

**Вандал Арлянскі**

# Музейны фонд

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні на пабудову музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак **141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

4 745. Эўгеніюш Кабатц (Варшава) ...... 50,00 зл.
4 746. Марк Рэдзімскі (Гдыня) ...... 44,00 зл.
4 747. Аляксей Мараўскі (Варшава) ...... 20,00 зл.
4 748. Стэфан Багацэвіч (Быдгашч) ...... 30,00 зл.
4 749. Канстанцін Майсеня (Гайнаўка) ...... 20,00 зл.
4 750. Іаланта Вішнеўская (Гайнаўка) ...... 25,00 зл.
4 751. Галіна Маліш (Гайнаўка) ...... 14,00 зл.
4 752. Ільля Агіевіч (Орля) ...... 50,00 зл.
4 753. Уладзімір Іванюк (Вітава) ...... 10,00 зл.
4 754. Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім, ІІІ-ія класы ...... 40,00 зл.

**Дзякуем.**

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. (0-835) 30-16.

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астронку, прысніўся мне такі сон, што ні плакаць, ні смяяцца. Быццам да нас (дахаты) прыйшла нейкая група людзей. Гэта ні то нейкая рамонтная брыгада, ні то група журналістаў з радыёвяшчання ці тэлебачання.

Чамусьці яны затрымаліся ў пярэдняй (каб нешта адрамантаваць), але адзін з іх зайшоў у пакой, і мы з ім гутарым, седзячы на канапе. Быццам ён (гэта мой стары знаёмы) бярэ ў мяне інтэрв'ю.

Я вырашыла пачаставаць гасцей. Здаецца, у прыгожай бутэльцы яшчэ была нейкая гарэлка. Я выцягваю тую бутэльку і бачу, што зверху ў ёй выбітая дзірка, а ў сярэдзіне не жоўтая гарэлка (каньякаватая), а белы джын. Аднак жа гэтага джыну крыху вылілася і ён не пахне ўжо, як павінен, ядлоўцам. Што рабіць, у хаце ж больш нічога няма! Я пачынаю наліваць гэты джын у маленькія шкляначкі.

На кухні мітусяцца нейкія жанчыны. Я ўзяла адну шкляначку і панесла яе таму рэпарцёру. Зусім забылася, што людзі ж у пярэдняй таксама чакаюць.

Пасля ўспомніла, пабегла на кухню, узяла той джын у шкляначках і заглядаю ў пярэднюю, ці хтосьці там яшчэ ёсць. Ну, так я і думала, што ўжо яны пайшлі. Застаўся толькі адзін чалавек, ён сядзіць на табурэтцы і нешта рамантуе ля дзвярэй. Я ўцешылася, што змагу хоць яго пачаставаць.

Сама не ведаю, што і думаць пра гэты сон.

**Агата**

Агата! Мяркую, што сон у нейкай ступені звязаны з прысніўшымся. У нас жа трэба частаваць рамонтную брыгаду, а ўжо калі б прыйшоў рэпарцёр на інтэрв'ю...

Але і так у тваім сне гарэлка не абазначае нічога асабліва дрэннага. Іншая справа, калі б табе прысніліся п'яніцы (дурныя сябры) або што ты сама была п'яная (страта, паніжэнне і беднасць). А ты проста частавала людзей гарэлкай. Горш было б, калі б ты піла разам з імі. Тады чакала б цябе беднасць ці нехта абразіў бы цябе. Праўда, тая дзірка ў бутэльцы і джын без арамату можа абазначаць невялікую страту.

**Астрон**

# Крыжаванка

**Гарызантальна:** 4. Ларэнца, фларэнцкі князь (1449—92), 7. краіна з Мюнхенам, 8. усходні платан, 9. Джозуэ, італьянскі паэт (1835—1907), 10. Джузепе, італьянскі жывапісец (1665—1747), 14. буйное спаборніцтва спартыўных суднаў, 18. Эўджэніо, італьянскі паэт (1896—1981), Нобелеўская прэмія за 1975 г., 19. суседка Сіцыліі ад поўдня, 20. ударны народны музычны інструмент, 21. Нікала, італьянскі кампазітар (1728—1800).

**Вертыкальна:** 1. прыгарад Александрыі, каля якога ў 1798 г. англійскі флот пад камандаваннем адмірала Нельсана перамог французаў, 2. малочны прадукт, 3. сталіца Цюрынгіі, 4. шарык для дзіцячых гульняў, 5. Аліг'еры, італьянскі паэт (1265—1321), 6. асколак разбітага посуду, 11. усталяваная рэпутацыя, 12. гурт сельскагаспадарчых жывёл, 13. фартэпіянны цыкл Ісаака Альбеніса, 15. горад між Неапалем і Патэнцай, 16. горы на поўначы Італіі, 17. сям'я стваральнікаў смычковых інструментаў з Крэмоны.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 34 нумара**

**Гарызантальна:** Эпір, Бабёф, Эдырне, грып, Атыла, Іванаў, Ільменаў, Арань, галкіпер, Булгакаў, ладан, Кракатаў, батрак, крыга, унты, Пёрсел, Арнім, акно.

**Вертыкальна:** Кастэр, Бёклін, перамога, Рэпін, Быкаў, ангар, Альмагра, ваўкалак, арба, Арль, спод, Грын, аўтахтон, Аўрора, Англія, бабёр, краса, акула.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Самборскай** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.


# Ніва

„**Niwa**”, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK”, Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”. Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1998 r. upływa 5 grudnia 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał 1988 r. wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## Фрашкі пра нашых

**Радзіва**

І радзіва, і малодзіва,
А вус высыпаўся,
І татам малодзівец стаўся.
І мазолься: **Чы**
лепш больш чытаць,
**Цім**
зусім не чытаць,
І за **Цімам**
толькі паўтараць?
Альтэрнатыва адзіная:
Або **так**,
або згіну я.

**Вандал Арлянскі**

## Думкі ў час мігрэні

* Зменлівасць — прыкмета жанчын і гадзіннікаў.

* Калі не маеш Бога ў сэрцы, не знойдзеш яго і ў храме.

* Жыццё — гэта пастка, з якой выбаўляе нас смерць.

* Каханне выключае розум, а ўключае сэрца.

* Не разумею, чаму папу называюць айцом, ды яшчэ святым. Што, ён дзяцей мае? Калі так, то які ён тады святы?

**Пётр Байко**




*Малюнак А. Каршакевіча*

## „Даўціпы” Андрэя Гаўрылюка

Хлопец вязе ў самаходзе прыгожую дзяўчыну. Пытае прахожага селяніна:
— Куды давядзе дарога, што вядзе ў лес?
— Проста да шлюбу.

* * *

Гутарка нарачоных:
— Не буду выходзіць за цябе замуж, бо ты задурны.
— Маеш рацыю: табе ж патрэбны такі, што думаў бы за дваіх.

* * *

— Што робіць дурань, калі хоча ўбачыць голую жанчыну?
— Жэніцца.

* * *

Кавалер да бацькі нарачонай:
— Колькі мільёнаў можаце даць дачцэ пасагу?
— Столькі, колькі мае гадоў.
— А няма ў вас старэйшай дачкі?

* * *

Бацька да знаёмай сына:
— Ці магла б ты выйсці замуж за майго сына толькі таму, што ён мае многа грошай?
— А многа ён іх мае?

* * *

Бацька да нарачонага дачкі:
— Чуў я, малады чалавеча, што вы хочаце ажаніцца з маёй дачкою. Якія маеце рэкамендацыі?
— Быў ужо нарачоным дачкі міністра і сваячкі прэм’ера.

* * *

— Ведаеш, каханы, — звяртаецца нарачоная да кавалера, — трэба будзе адтэрмінаваць наш шлюб...
— Чаму: разлюбіла мяне?
— Ды не. Бачыш, учора я выйшла замуж за інжынера, і то за такога, што доўга з ім вытрымаць нельга.

* * *

— Кахаеш мяне? — пытае яна.
— Абагаўляю цябе.
— Аддаў бы за мяне жыццё?
— Не; мая любоў неўміручая.

* * *

Ён да яе:
— Хачу з табою кахацца.
— Дык навошта ж я столькі апранулася?..

## Шкло ў ступе

Я засяліўся ў новую кватэру. На душы панавала радасць і шчасце... Але вось званок у дзверы. Гляджу — каржакаваты мужык у брызентавым плашчы. Ён бесцырымонна пераступіў парог, паставіў на падлогу вялізную скрынку з аконным шклом і весела падміргнуў мне:
— Ну што, пачнём?
— Што — пачнём? — не зразумеў я.
— Выбіваць шыбы.
— Навошта?
— Уставім новыя.
— Лепшай якасці?
— Такія ж самыя.
— Жартуеце?
— Якія могуць быць жарты!

Мужык выцягнуў з-за пояса малаток з доўгай ручкай і рвануўся да акна.

— Пачакайце, — забег я яму наперад, расставіўшы рукі. — Зараз пазваню куды трэба і скажу...

— А хто ж вас паслухае? Вось нарад, — каржакаваты тыцнуў мне скамечаную паперку. — Сінім па беламу напісана: у сорак першай, гэта значыць, у вашай кватэры зашкліць шыбы. Не зрабіць гэтага я не магу. Панясу матэрыяльныя страты. Тут простая арыфметыка: чым больш выбіваем — тым больш устаўляем, а чым больш устаўляем — больш зарабляем. Прывычка такая ў нашай будаўнічай арганізацыі з даўніх часоў укаранілася.

— Крушыць новыя шыбы?

— Мы, грамадзянін жылец, крушым іх, ведаеце як, маштабна? Сказаць — не паверыце.

— Малаткамі? З такой вось доўгай рукаяткай? — жахнуўся я.

— Не толькі. Тэхналогія тут вось якая. Устаўляем у толькі што пабудаваным доме аконныя рамы, шклім. Затым пачынаем аддзелачныя работы. Ад інтэнсіўнай працы, натуральна, шкло разлятаецца на друзачкі. Некаторыя шыбы, праўда, цэлымі застаюцца. Дык іх малаткамі выбіваем. Ну, а перад тым, як здаць аб’ект у эксплуатацыю паўторна шклім шыбы. Бо як без зашклённых акон жыць?

— І вас не б’е за гэта начальства? Хаця б грыўнай па кішэні.

— Начальства не нясе матэрыяльных страт. Разбітае шкло спісваецца за кошт заказчыкаў. Па гэтаму і таўчом яго, як у ступе. Зразумелі? Ці пераканаў я вас нарэшце?

— Ніколечкі! Не бачу здаровага сэнсу.

— Сэнс, паважаны грамадзянін жылец, у тым, што ў вашай кватэры не шклілі вокны другі раз. Для нас гэта непрывычна. Быццам недапрацавалі. Вось і спахапіўся кіраўнік... Дык, можа пачнём? — ліха замахнуўся мужык малатком.

— Выбірайцеся адсюль, ведаеце куды? — паспрабаваў я выштурхнуць яго за дзверы. — На кватэру свайго кіраўніка. Там можаце не толькі вокны, але і сервант з сервізам разбіць!

Майстар-шкляр аказаўся спрытнейшым за мяне: ён вырваўся з маіх рук, падбег да акна і стукнуў па ім так, што ўсе шыбы, жалобна зазвінеўшы, пасыпаліся...

**Міхайла Пальчык**

*З украінскай пераклаў Валеры Бабей*

## Сардэчныя тайны

Даражэнькае Сэрцайка! Мая дачка вучыцца ў трэцім класе ліцэя. Не вядзецца нам кепска, жывем у дастатку, дык дазваляем ёй на ўсё, чаго яна хоча (вядома, у матэрыяльным сэнсе).

Наша дачка — вельмі прыгожая і статная дзяўчына, нават закончыла нейкі курс мадэлек. Яе ўжо і цяпер няраз бяруць на нейкія паказы, на дэманстрацыю вопраткі.

І вучыцца ў школе вельмі добра. Дасканала гаворыць па-англійску, а цяпер вывучае яшчэ нямецкую мову. Сама кіруе машынай, разбіраецца ў камп’ютэры, адным словам, нават мне, маці, здаецца, што яна — дзяўчына хоць куды.

Праўду скажу: у справах маральных мы яе выхоўвалі вельмі сурова. Ад малога мы ўнушалі ёй, што на эротыку яшчэ мае час, што галоўнае для яе — навучыцца радзіць сабе ў жыцці, быць незалежнай. А яна была дзяўчына паслухмяная.

І вось прыйшоў момант, калі мы пачалі непакоіцца, што наша дачка можа застацца ў дзеўках. То ж кожны на яе заглядаецца! А колькі хлопцаў круціцца каля яе! Ну, і што з таго, калі ніводным з іх яна не можа зацікавіцца. Не падабаюцца вось і ўсё. Я ўжо ўсё думала-перадумала. А што будзе, калі змарнуе і сваю прыгажосць і свае здольнасці ды застанецца адна ў жыцці. Або... або яшчэ чаго горшага дачакаемся. Цяпер жа ўсялякага паскудства на свеце поўна, нават бабы з бабамі жывуць!

Памятаю, гадоў дваццаць таму, калі я была ў яе ўзросце, мы ўжо былі зусім дарослыя. Калі была нейкая прыватка ў той ці іншай сяброўкі, дык заўсёды выбіралі дзень, калі бацькоў гэтых дзяўчат не было дома. Вядома, каб адчуць сябе свабоднымі. Даходзіла тады, праўду кажучы, да розных рэчаў, пра якія нашым бацькам нават не прыходзіла ў галаву. І ўсе мелі сваіх хлопцаў, пажаніліся і павыходзілі замуж у пару.

А тут што выходзіць? Што ў свае васемнаццаць гадоў яна яшчэ па-сур’ёзнаму нават з хлопцам не хадзіла...

Мы ўжо нават наладзілі сёлета вечар у кавярні на 18-годдзе нашай дачкі. А ў мінулым годзе дык, калі быў яе дзень нараджэння, яна зрабіла прыватку ў нашай хаце. Ну, ведаеш, мы з дому не выходзілі. А паколькі жывем у блёку, дык моладзь гуляла ў даччыным пакоі і ў вялікай пярэдняй, а мы спалі ў сваіх пакоях. Здаецца, у іх там было вельмі прыемна.

Але сёлета хацела яна, каб было ў кавярні. Ну, дык дамовіліся яны з сяброўкай і зрабілі супольную забаву на сто асоб. Мы мусілі ёй нават даць на гэтую імпрэзу шэсць мільёнаў (вядома, старых) злотых. Сяброўчыны бацькі далажылі столькі ж.

Кажуць, забава была „шампанская”. А хлопца як не было, так і няма. Мы ўжо нават думаем, што дарма выкінулі грошы. Мо ты, Сэрцайка, хоць крыху супакоіш нас?

**Маці**

Шаноўная Маці! Я думаю, што не варта хваляваццa. Тыя, што рана пачынаюць, наогул канчаюць даволі хутка. Хто на вучнёўскіх прыватках хаваўся па кутках ды дазваляў абмацваць сябе, не паступіў у вышэйшую школу, а калі і здаў, дык вылецеў з яе. Калі вучні пажаніліся адразу пасля школы, дык хутка развяліся ці пакінулі дзяцей на волю дзядоў.

Не трэба спяшацца. Я думаю, што вы правільна выхоўвалі сваю дачку і на ўсё прыйдзе свой час. Мо цяпер нават ужо і занадта многа стараняў ты прыкладаеш, каб дачка знайшла кавалера. Навошта? Такая дзяўчына знойдзе сабе хлопца сама. І гэта будзе той адзін-адзіны, якога кахае яна па-сапраўднаму.

А мець — абы мець? Навошта ёй гэты баласт, калі на дыскатэку ці забаву пойдзе з ёй кожны, каго яна запросіць.

**Сэрцайка**